*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

**ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ**

**ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА**

ПЯТНІЦА
12
ЛЮТАГА
1993 г.
№ 7 (3677)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ
3 рублі

## У МАНЮШКІ НА РАДЗІМЕ

**Да юбілею кампазітара яшчэ шэсць гадоў. Але рыхтавацца да яго мы пачынаем сёння.**

СТАРОНКА 3

## НА ВЫШЫНІ АБСУРДУ

**Уладзімір КАЛЕСНІК: «Паэт цяжка параніў сябе нажом дома, у спальні, вярнуўшыся ноччу з чарговых запросін у ГПУ для «беседы». Быў на валасок ад смерці, два месяцы мінскія медыкі змагаліся за яго жыццё, нават сакратар ЦК КП(б)Б Гей чакаў лятальнага зыходу і дзеля перастрахоўкі паінфармаваў пра выпадак Сталіна, які нядаўна прыслаў гэтага функцыянера ў Беларусь са спецзаданнем: чысціць рэспубліку ад ворагаў».**

СТАРОНКІ 5, 14—15

## ПА ПРЫСТУПКАХ «ЧОРНАЙ ЛЕСВІЦЫ»

**Аляксандр СТАНЮТА пра новую кнігу вершаў Васіля ЗУЁНКА.**

СТАРОНКА 7

## КАІН

**Паэма Васіля ВІТКІ.**

СТАРОНКІ 8—9

## «Я БАЧЫЎ НЯПРАЎДУ...»

**Нататкі Жаны ЛАШКЕВІЧ пра спектакль «Курыца» Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

СТАРОНКІ 10—11

## БІЯСФЕРА-3

**Казкі перабудовы Вячаслава ПІЛІПЧЫКА.**

СТАРОНКА 16



**Народнаму мастаку Беларусі Віталю Цвірку — 80. Пранікнёны, тонкі і тэмпераментны жывапісец, чалавек неспакойнай думкі і моцнага пачуцця, ён па праву заняў выдатнае месца ў сучасным пейзажным жывапісе як сапраўдны пясняр зямлі беларускай. Яго творы сцвярджаюць светлы і добры пачатак у навакольным складаным, часам драматычным свеце, уражваюць адкрытай душой іх стваральніка.**

**Пачатак пачаткаў яго — вёска Радзеева на Гомельшчыне, песні, казкі, легенды роднай зямлі, яе колеры, гукі і пахі. Потым быў Гомель. Вучоба ў М. Станюты і А. Тычыны. Затым — Мінск, першы настаўнік у мастацтве — К. Крапіва. Вучоба ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Маскоўскім мастацкім інстытуце ў С. Герасімава, Г. Ражскага і І. Грабара. Першыя творчыя ўзлёты. Дзівосныя па лірызму камерныя пейзажы. Эпічныя манументальныя кампазіцыі і філасофскія пейзажы-карціны. Педагагічная дзейнасць, якая глыбока паўплывала не на адно пакаленне мастакоў. І в[illegible]ныя нястомныя паездкі па Беларусі. І — дзесяткі, сотні выставак на радзіме і за мяжой. Прызнанне. Слава. І — штодзённая творчая праца...**

**...Калі я назіраў, як Цвірка працуе, не мог пазбавіцца адчування, што на маіх вачах творыцца цуд. Жывапісец узнаўляе складаныя контуры ландшафту, яго зменлівыя фарбы з такой свабодай і лёгкасцю, што спачатку здаецца, быццам пейзаж не пішацца, а праступае на палатне пад ударамі пэндзля. Але чым далей, тым больш пачынаеш разумець, якая цяжкая гэтая вонкавая лёгкасць, як далёка маэстра ад нехітрага паўтору натуры. Ён гутарыць з прыродай, давяраючы ёй свае думы і хваляванні, пытаючыся адказу. Гэта і складае ўнутраную тэму палатна, жывую душу яго...**

**Дай Бог Вам, дарагі Віталь Канстанцінавіч, здароўя і доўгіх гадоў жыцця і творчасці на шчасце нашай айчыны!**

**Барыс КРАПАК.**

# Кола Дзён

Змагары за поўную і канчатковую русіфікацыю Беларусі зноў падымаюць галовы. У каторы раз выдавецка-паліграфічная кампанія «Эрыдан», якая заваліла рускамоўнай фантастычна-прыгодніцкай прадукцыяй усе кнігарні Беларусі і блізкага замежжа, правяла «сацыялагічнае даследаванне», па выніках якога большасць апытаных выказалася супраць дзяржаўнасці беларускай мовы. На прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды кіраўнік кампаніі А. Патупа заявіў нават, што Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы—абсурд, што ён падобны на закон аб барацьбе з п'янствам і алкагалізмам і з ім далей нельга мірыцца. Не будзем каменціраваць гэтыя словы. Бо людзі дасведчаныя добра ведаюць і разумеюць, а недасведчаныя могуць здагадацца, чаму эрыданаўцы гэтак не любяць беларускую мову. Але гэта ж як трэба не паважаць народ, сярод якога жывеш, каб не дапамагаць яму ў цяжкія часіны выжыць і адрадзіцца, а наадварот, станавіцца ў адзін шэраг з ягонымі магільшчыкамі?.. «Московские новости» могуць паіранізаваць над рашэннем Міністэрства інфармацыі Беларусі аб абмежаванні рэнтабельнасці паліграфічнай дзейнасці, скіраваным найперш супраць рускамоўных выданняў: «Во всем мире такими льготами пользуются издания на языках национальных меньшинств». Мы ў сваёй краіне аказаліся якраз у такім становішчы. Мы прызнаём гэта. І нам не да смеху.

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

На Украіне прайшлі Дні беларускай культуры. Нашыя суседзі пазнаёміліся з беларускім нацыянальным мастацтвам практычна ўсіх жанраў. У Кіеве адбыліся канцэрты, выставы, сустрэчы з дзеячамі культуры Беларусі. Як бачым, некаторыя з традыцый застойных часоў варта было б пакінуць. І найперш—сяброўства і добрасуседства братніх народаў.

### СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

У аўторак вечарам Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан патэлефанаваў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу. Ужо адно тое, што пра нас памятаюць і не забываюць не толькі ў расійскім Белым доме, але і ў заакіянскім, — прыемна.

### НАВІНА ТЫДНЯ

У Германіі друкуецца беларуская валюта, якая, мажліва, у хуткім часе заменіць «зайчыкаў». На новых грашах—выявы Скарыны, Купалы, Коласа, Цёткі.., а на адваротным баку—помнікі архітэктуры Беларусі. Назва беларускіх грошай... рубель. Вельмі ўжо, відаць, не падабаецца нашым банкірам і, пэўна, не толькі ім, слова «талер».

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

Беларусь наведала дэлегацыя дэпутатаў ВС Украіны на чале са старшынёй парламенцкай камісіі па міжнародных справах і знешнэканамічных сувязях Дзмітром Паўлычкам. Дэлегацыя сустрэлася з Станіславам Шушкевічам, з членамі Камісіі па міжнародных справах і знешнэканамічных сувязях ВС Беларусі. Дзмітро Паўлычка і сябар камісіі паэт Іван Драч сустрэліся таксама ў Доме літаратара са сваімі калегамі па пяры.

### АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Вярхоўны Савет Беларусі прыняў рашэнне «Аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва ва ўстановах Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь». У тых, у каго на 1 студзеня 1991 года на ашчадкніжцы ляжала да адной тысячы рублёў, пасля індэксацыі ўклад павялічыцца ў 5 разоў, астатнім жа будзе дададзена толькі па 4 тысячы рублёў. Забудзем на час пра інфляцыю, якая даўно перавысіла гэтыя лічбы, і парадуемся «рашучасці» нашых дэпутатаў у абароне правоў выбаршчыкаў.

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Як паведаміла маскоўскае радыё і некаторыя рэспубліканскія газеты—знойдзена бібліятэка Івана Грознага. Не ў Маскве, дзе яе шукалі доўгі час, а ў скляпах на тэрыторыі Крамля і манастыра ў горадзе Аляксандраў Уладзімірскай вобласці. На нашую думку, не меншую, чымсьці для расейцаў, каштоўнасць гэтая знаходка будзе мець і для беларусаў. Сярод «ваенных»» трафеяў Івана Грознага было шмат беларускіх кніг, летапісаў, абразоў, прадметаў быту і інш.

### ПАРТСХОДКА ТЫДНЯ

Пасля доўгага перапынку адбылося пасяджэнне бюро ЦК КПБ. Падставай для яго правядзення стала адмена Вярхоўным Саветам Беларусі сваёй пастановы аб прыпыненні дзейнасці кампартыі. Удзел у адкрытым пасяджэнні прыняло 17 з 24 членаў бюро і члены палітвыканкама роднаснай ПКБ. Прынята рашэнне аб правядзенні XXXII з'езда КПБ. Пытанне аб сваёй маёмасці камуністы пакуль не ўздымаюць. Але, па словах другога сакратара (ужо не былога!) ЦК КПБ А. Камая, «усім зразумела, што тое рашэнне Вярхоўнага Савета было неканстытуцыйным і было б вельмі адказна і прыстойна, калі б камуністы самі распарадзіліся сваёй маёмасцю». Беларусь мела да жніўня 1991 года амаль паўмільёна камуністаў. Колькі будзе зараз—не важна. Аднак тое, што прывід камунізму зноў блукае па Беларусі,—ужо факт.

### КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Паслугамі метро штодзень карыстаюцца 370 тысяч мінчан і гасцей сталіцы. Аднак, падчас спецыяльнага даследавання, выяўлена, што палова пасажыраў—льготнікі. Яшчэ больш цікавыя лічбы паведамілі гомельскія транспартнікі: у паўмільённым горадзе дзве трэці гамяльчан ездзяць на тралейбусах бясплатна. Усе яны—таксама льготнікі.

### «АДКРЫЦЦЁ» ТЫДНЯ

Аказваецца, з пачатку 1993 года прызнаны несапраўднымі пячаткі са старым гербам БССР. У нас гэтая «фармальнасць» засталася незаўважанай, а вось на мяжы з Літвою вашае камандзіровачнае пасведчанне са старой пячаткай могуць за дакумент не прызнаць.

# ДЗВЕРЫ ДЛЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Словы, вынесеныя ў загаловак, належаць міністру культуры і адукацыі Літоўскай Рэспублікі сп. Трынкунасу. Так шаноўны міністр вызначыў значэнне Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне культуры паміж Міністэрствам культуры і адукацыі Літоўскай Рэспублікі і Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, падпісаным міністрамі Д. Трынкунасам і Я. Вайтовічам 5 лютага г. г. у Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Акрамя Пагаднення, міністры падпісалі і Праграму культурнага супрацоўніцтва і абмену паміж двума міністэрствамі на 1993-94 гг.

На імправізаванай прэс-канферэнцыі ў Міністэрстве культуры, якая выглядала хутчэй як сустрэча з творчай, мастацкай грамадскасцю Мінска, калегі-міністры пракаментавалі падпісаныя дакументы. Я. Вайтовіч адзначыў, што дадзенае пагадненне выводзіць міжкультурнае супрацоўніцтва Літвы і Беларусі на новы, больш дасканалы ўзровень і прымаецца на аснове дзяржаўнай, палітычнай самастойнасці абедзвюх краін. Адпаведна ўзрастае і ступень адказнасці бакоў у справах культурнага абмену. Д. Трынкунас асабліва адзначыў ролю, якую павінны адыграць дакументы ў пошуках, рэстаўрацыі і вяртанні адпаведна літоўскай і беларускай культурнай спадчыны. (Артыкул 4 «Пагаднення» сцвярджае: «Бакі будуць абменьвацца інфармацыяй аб вывезеных нацыянальна-культурных каштоўнасцях, якія цяпер знаходзяцца ў музеях, бібліятэках і архівах другога боку, супрацоўнічаць у пошуку і вяртанні каштоўнасцяў...»). У Праграме супрацоўніцтва вызначана ўжо за першае паўгоддзе 1993 г. абмяняцца інфармацыяй аб каштоўнасцях, якія знаходзяцца ў суседняй краіне, — беларускай спадчыне ў Літве і літоўскай — у Беларусі. Часткова «абмен інфармацыяй» адбыўся падчас прэс-канферэнцыі: дырэктар Нацыянальнага навукова - асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны прафесар А. Мальдзіс паведаміў, што ў Беларусі знаходзіцца архіў Віленскага універсітэта даваеннага часу, а ў Літве — фрагменты Тураўскага евангелля... Для вырашэння арганізацыйных пытанняў у справе вяртання спадчыны, як пазначана ў праграме, будзе створана двухбаковая камісія.

Акрамя дэкларавання намераў, бакі пагадзіліся на канкрэтныя акцыі і мерапрыемствы: вырашэнне «пытанняў лёсу і адраджэння» музея І. Луцкевіча ў Вільні (1-я чвэрць 1993 г.); удзел у рэстаўрацыі і адбудове Крэўскага і Навагрудскага замкаў; абмен творчымі калектывамі падчас правядзення фальклорных фестываляў і г. д. Пагадненне будзе дзейнічаць на працягу трох гадоў.

Ю. З.

УРАЖАННЕ

# ДЗЯРЖАЎНЫЯ КЛОПАТЫ ГРАМАДСКАГА КАМІТЭТА

Адбылося чарговае пасяджэнне Камітэта вяртання. На пасяджэнні прагучалі вытрымкі з лістоў вайскоўцаў на адрас камітэта, лічбы і іншая інфармацыя, якая сведчыць, што нашы дзяржаўныя структуры, мякка кажучы, не надта клапоцяцца аб вяртанні на Бацькаўшчыну тысяч сыноў яе, што аказаліся зараз заложнікамі палітычных дактрын і загадаў чужых урадаў.

Нагадаю, што Камітэт вяртання быў створаны ў кастрычніку мінулага года з галоўнай мэтай — садзейнічаць вяртанню на радзіму вайскоўцаў, якія нарадзіліся або былі прызваныя на вайсковую службу з тэрыторыі Беларусі. І хаця з'яўленне Камітэта было выклікана перш за ўсё пасіўнасцю, а часам і нежаданнем урада і Мінабароны вырашаць гэту надзвычай важную праблему, Камітэт не прэтэндаваў на апазіцыйнасць да афіцыйных структур. Якраз наадварот — імкнуўся падставіць сваё плячо. А канкрэтна: узяць на сябе функцыю грамадскага кантролю за выкананнем законаў аб вяртанні, інфармаваць аб справах у гэтай галіне шырокую грамадскасць. Але Міністэрства абароны адрэагавала на такія прапановы ў сваім стылі: на словах паабяцала ўзаемадзеянне, а на справе — пачало як мага далей трымаць сяброў Камітэта ад сваёй чыноўніцкай «кухні». Зрэшты, такую, не зусім сумленную гульню, можна вытлумачыць наступным чынам.

Па-першае, чыноўнікаў у пагонах бянтэжыць дрэнная «спадчыннасць» Камітэта, «хросным бацькам» якога з'яўляецца БЗВ, а ўзначальвае народны дэпутат Г. Сямдзянава. Гэтыя людзі для прадстаўнікоў Міністэрства абароны сімвалізуюць нацыяналізм, дэстабілізацыю і г. д. Па-другое, шмат хто з апарату міністэрства зберагае чырвоныя партбілеты і дагэтуль перакананы ў тым, што служыць у расейскіх войсках паўночна-заходняга напрамку.

Што ж датычыць дзяржавы і ўрада, то іх клопат аб сынах нашае Бацькаўшчыны абмежаваўся рашэннямі і пастановамі аб адкліканні вайскоўцаў-беларусаў з «гарачых кропак». Дарэчы, пад гэта вызначэнне не трапілі Малдова з Прыднястроўем і Паўночны Каўказ, дзе, як мы ведаем, ідзе сапраўдная вайна. Больш таго, ход выканання дзяржаўных пастаноў і рашэнняў ніхто не кантраляваў.

Клеркі ж з «будынка пад шпілем» на гэта і спадзяваліся. Не, яны не сабатавалі загад урада, але і не выканалі яго. У вайсковыя часці, дзе служаць беларусы, былі адпраўлены лісты. А ўжо далей, маўляў, вашы асабістыя цяжкасці, спадары беларусы. Цяжкасцей аказалася не так і шмат, але без дапамогі дзяржавы яны амаль не пераадольныя.

Пачнём з таго, што сёння ні адна краіна СНД свае ваенныя кадры проста так не аддае. І калі салдат вярнуць дамоў яшчэ няцяжка, то афіцэру ці прапаршчыку вылузацца з чужой арміі часцей за ўсё немагчыма. Тым больш з «фронту».

У дадатак, таго, хто знаходзіў магчымасць вырвацца на радзіму, яна сустракае словамі ўсё таго ж штатнага бюракрата ваеннага ведамства: «Месцаў і жылля няма. Шукайце самі». Зразумела, што знайсці сабе месца ў перапоўненай і скарачаемай арміі мала каму ўдаецца. Пра жыллё я ўжо маўчу. Добра, калі ёсць мінімальная выслуга — тады табе проста прапануюць звольніцца на пенсію. А што рабіць, калі выслугі няма?

Зусім дрэннае становішча ў тых нашых землякоў, што служаць на чужыне і не трапляюць пад пастанову аб адкліканні. На свае звароты ў МА Беларусі часцей за ўсё атрымліваюць адказ: «Прыняць не маем магчымасці». Аб тым, што хаваецца за гэтай фармулёўкай, удзельнікам пасяджэння на прыкладзе ўпраўлення контрразведкі КДБ Беларусі расказаў супрацоўнік упраўлення народны дэпутат В. Кастко. Валерый Іванавіч на падставе аналізу службовых дакументаў зрабіў выснову, што такі адказ далёка не заўсёды грунтуецца на дэталёвым вывучэнні кадравай сітуацыі. І тут жа пераканаўча праілюстраваў выснову канкрэтнымі лічбамі на кадравых зменах за мінулы год. Відавочна, што ў Мінабароне сітуацыя наўрад ці лепшая.

Зрэшты, нічога дзіўнага ў такім становішчы няма. Ці ж будуць спрыяць вяртанню землякоў кадравікі, якія сустракаюць сяброў Камітэта пытаннем: «А что значит «вяртанне» по-русски?»

Не, я не за тое, каб наша войска камплектавалася выключна па нацыянальным прызнаку. Такой бязглуздзіцы вы не пачуеце і ад самага радыкальнага нацыяналіста. Але ж афіцэр беларускай арміі павінен як мінімум цікавіцца жыццём краіны, якой ён служыць. Як рабіў і робіць гэта намеснік старшыні Камітэта вяртання афіцэр запаса Юры Буруцін.

— Калі хтосьці спрабуе прадставіць нашу дзейнасць як рэалізацыю нацыяналістычных амбіцый, мне становіцца смешна. Сам я рускі. Так атрымалася, што большая частка майго жыцця прайшла на Беларусі. Краіна мне стала роднай. Падабаецца яе народ, культура, мова. Ну ці ж магу я пасля гэтага быць раўнадушным да таго, як пакутуюць беларусы, якія не могуць вярнуцца дамоў?

Ведаю, не для выхвалення гаворыць Юры Аляксандравіч высокія словы. Справе, за якую ўзяўся, ён аддае ўвесь свой час. Вялікі яму за гэта дзякуй. Вось толькі дзіўна: чаму ён, а не тыя, хто займаюць адпаведныя пасады і каму прадпісана гэта службовымі абавязкамі, павінен браць на сябе дзяржаўны клопат?

М. Б.

АДГАЛОСКІ

# Ці будзе наша пакаленне жыць пры камунізме?

На пачатку лютага беларуская камсамолія адсвяткавала гадавіну свайго адраджэння. Сама па сабе падзея ў вірлівым жыцці рэспублікі не надта адметная і яшчэ месяц-два назад наўрад ці знайшла б яна месца на старонках «ЛіМа».

Пачну з таго, што апошнім часам у палітычным спектры Беларусі значна прыбавілася чырвані. І калі большасць з нас за тлумам і мітуснёй вакол «каўбасных» праблем гэтага не заўважае, то партыі і рухі рэагуюць на такія змены вельмі чуйна.

Першы штуршок даў прыход да ўлады ў Літве А. Бразаўскаса. Нягледзячы на тое, што з камуністамі старшыню літоўскага парламента звязвае тое ж, што і Ельцына, і Краўчука, нашы чырвоныя ўзнялі вакол гэтага факта такі прапагандысцкі гвалт, быццам бы Літвою зноў кіруе ЦК КПСС.

Другі сігнал да выхаду з анопаў яны пачулі ў прызначэнні Л. Кучмы на пасаду кіраўніка ўкраінскага ўрада. Калі, цікава, і каму ён прызнаваўся аб сваіх сімпатыях да камуністаў? Ды нікому. Такая выснова магла нарадзіцца толькі на падставе змены эканамічных прыярытэтаў Украіны ў бок Расіі. Але гэта — проста цвярозы і лагічны погляд на эканамічную сітуацыю, што склалася ў абедзвюх краінах, а ніяк не дэманстрацыя прыхільнасці да старых ідэалаў.

Тым не менш масіраваная апрацоўка мазгоў, якой міжвольна спрыяла і дэмакратычная прэса, дала свой плён. І, здаецца мне, далёка не апошнюю ролю адыграла шуміха вакол уяўнага вяртання камуністаў на авансцэну вялікай палітыкі Беларусі. Адмена вядомай пастановы — гэта ўжо не сігнал, а казырная карта ў калоду, якой гуляе сёння зборная каманда чырвоных і карычневых. Можна не сумнявацца, што козыр хутка ўвойдзе ў палітычную гульню. Зрэшты, пад яго ўжо спрабуюць рабіць стаўкі. Той жа камсамол.

У лютым мінулага года на турбазе ў вёсцы Кончыцы, што пад Пінскам, гучалі перапоўненыя рэвалюцыйным пафасам прамовы маладых бальшавікоў: ЛКСМБ праводзіў свой аднаўленчы з'езд. Але ў такі вось р-рэвалюцыйны аптымізм наўрад ці верылі самі прамоўцы. Праз год урачыстасці, прысвечаныя леташняму з'езду, прахо-

З НАГОДЫ

# ВАРТАВЫЯ ПРАЗРЫСТЫХ МЕЖАЎ

Ёсць падзеі, якія вельмі нагадваюць айсберг: траціна навідавоку, аб астатнім даводзіцца толькі здагадвацца. Адна з такіх падзей адбылася 2-га лютага ў вучэбным цэнтры пад Мінскам.

Пагранічны факультэт Вышэйшых курсаў КДБ Беларусі ўрачыста і нават з помпай правёў першы выпуск сваіх курсантаў. Бадай што самым ужывальным словам у гэты дзень было слова «першы». «Першыя беларускія пагранічнікі, якія скончылі першую беларускую навучальную ўстанову падобнага тыпу», — не без гонару адазваўся аб выпускніках у сваім віншавальным выступленні палкоўнік М. Папоў.

Безумоўна, ганарыцца ёсць чым. Беларусь мацуе сваю дзяржаўнасць, клапоціцца аб уласнай бяспецы. Згодна з дадзенымі пагранупраўлення мяжу Беларусі з Літвой і Латвіяй сёння перасякае не менш 150-ці дарог, якія прыдатныя для кантрабанднага вывазу тавараў з краіны. Сёння на гэты напрамак накіроўваюцца пяцьдзесят навaспечаных прапаршчыкаў — кантралёраў КПП.

Добра, вядома, і тое, што для большасці гэтых хлопцаў словы «Святыя рубяжы рэспублікі маёй», якія напісаны на карце Беларусі ў вучэбным цэнтры, блізкія сэрцу. Як сказаў адзін з выпускнікоў факультэта Уладзімір Палюлян:

—Я вырас на Беларусі і не магу бачыць, як сплывае за мяжу набытак майго краю.

Дарэчы, конкурс сярод жадаючых паступіць на факультэт быў 5 чалавек на месца. Таму не дзіўна, што ўзровень падрыхтоўкі на выпускных іспытах пагранічнікі паказалі высокі.

Але засяродзіцца толькі на прыемным — значыць змоўчаць аб падводнай частцы вялізнага айсберга праблем вакол беларускай мяжы.

Да гэтага часу не ўзгоднена каля 20 працэнтаў беларуска-літоўскай мяжы, на якой размешчаны найбольш спрэчныя ўчасткі. Працэс дэлімітацыі і дэмаркацыі мяжы наўрад ці будзе лёгкім. Як вядома, доўгі час усе межы на карце былога Саюза маляваў аловак Масквы. Да таго ж рука, якая вадзіла гэтым алоўкам, далёка не заўсёды была ў згодзе з галавой. І, што самае галоўнае, рабілася гэта з неахайнасцю вучня сярэдняй школы на ўроку чарчэння: малявалася, сціралася і зноў малявалася. Так абыходзіліся і з беларуска - літоўскай мяжой. «Асобныя ўчасткі аддаваліся адзін аднаму землекарыстальнікамі на падставе актаў, якія складаліся дзе-небудзь на пні ў лесе», — зазначыў карэспандэнту «Свабоды» пасол па асобых даручэннях МЗС Станіслаў Агурцоў.

Няма да гэтага часу дэталёвай канцэпцыі межаў Беларусі з краінамі Прыбалтыкі. Пакуль што разглядаюцца і ўзгадняюцца прапановы абодвух бакоў. Мяркуецца, што межы будуць празрыстымі. Так яно і павінна быць паміж добрымі суседзямі, але калі чую слова «празрысты» ў адносінах да мяжы, то адразу згадваю прызнанне аднаго з кіраўнікоў пагранічных войск Расіі:

— Гэты сарамлівы тэрмін быў прыдуманы для абазначэння поўнай адсутнасці межаў.

Так яно пакуль і ёсць. Ідуць праз мяжу машыны з маёмасцю нашай рэспублікі. Ідуць па лясных малапрыкметных дарогах, абмінаючы КПП. Не, такая «празрыстасць» нам непатрэбна.

Так што ў выкладчыкаў пагранічнага факультэта наперадзе — шмат працы.

**НАШ КАР.**

ВЫСТАВЫ

# ТЭНДЭНЦЫЯ: ЭВАЛЮЦЫЯ

З 19 па 31 студзеня ў Палацы мастацтваў праходзіла выстава графікі. У ёй бралі ўдзел Г. Бараноўская, У. Гладкевіч, У. Дамянкоў, Л. Журавовіч, А. Кошалеў, Ю. Падолін, В. Сташчанюк, Ю. Хілько, А. Шаліма, Ю. Якавенка. У большасці гэта выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў апошніх гадоў. Такім чынам прадстаўленае ў экспазіцыі нібыта скіравана ў перспектыву. І, магчыма, нехта з удзельнікаў выставы заўтра ўвойдзе ў нагорту лідэраў, якая пакуль што складаецца з мастакоў старэйшых пакаленняў. Як тэндэнцыю можна адзначыць адыход ад звыклых рэалістычных форм. Але адыход паступовы, без «авангардысцкіх» перагібаў. Я не стаў бы адносіць выставу да ліку выдатных падзей культурнага жыцця Беларусі. Але тыя, хто наведаў яе, час дарма не згубіў.

**В. БОГУШ.**

дзілі ўжо пад знакам рэальных перамог камунізму ў адной асобна ўзятай краіне — Беларусі. Вядома ж, і зараз, па бальшавіцкай сваёй звычцы, маладыя камуністы практыкаваліся ў гіпербалізацыі рэчаіснасці. Але, прынамсі, пахваліцца перад гасцямі з аналагічных арганізацый Расіі і Украіны гаспадарам камсамольскага «междусобойчика» было чым. Гаворка не толькі аб рашэнні парламента. Актывізацыя пракамуністычнага руху, блакіраванне яго з рухамі імперска - шавіністычна-фашысцкага кшталту не прайшлі бясследна. Працэс яднання новых людзей, сіл і цэлых палітычных плыняў пад чырвонымі сцягамі набыў яшчэ нядаўна нехарактэрны яму дынамізм. А той факт, што падобныя на канчыцкую бальшавіцкія імпрэзы фінансуе група «чырвоных дырэктараў», якая таксама расце, гаворыць аб тым, што на гэтыя сілы робіць стаўку і пэўная частка прадпрымальнікаў. У першую чаргу тыя, чые мільёны зароблены на былых партыйных і камсамольскіх грашах.

Пры пэўным патуральніцтве з боку дзяржавы і адсутнасці лагічнай, стройнай і прывабнай ідэалагічнай канцэпцыі будучыні нашага грамадства ўсё гэта прыводзіць да таго, што параўнальна невялікая, але актыўная палітызаваная частка моладзі шукае сабе выхад у палітыку праз пракамуністычны і роднасныя яму рухі. На жаль, амаль нікім не бярэцца ў разлік, што за апошнія сем гадоў пасталела і ўваходзіць у жыццё моладзь, якая не помніць, і, тым больш, не адчула на сабе ўсіх «прелестей» жыцця ў сацыялістычным лагеры. Затое яна добра бачыць сённяшняе жыццё, якое мала каго можа задаволіць. І юнацкі максімалізм да пераўтварэння свету цалкам можа быць скарыстаны адзначанымі сіламі.

Хаця, вядома, гэта ўжо будзе паўтор гісторыі. А, значыць, нешта іншае, чым фарс, наўрад ці атрымаецца.

Л. Я.

МУЗЫКА

# У Манюшкі на радзіме

Пані-легенда, чароўная Марыя Фолтын завітала ў Мінск. Яе трыумф на оперных сцэнах Варшавы ды Лейпцыга, Любека ды Лодзі, яе праца як рэжысёра ў розных тэатрах свету над пастаноўкамі твораў польскіх кампазітараў — хоць не такая і даўняя, але гісторыя. Можна падзівіцца яскраваму і лёгкаму сапрана польскай прымадонны, захаванаму на касетах і дысках. Але не менш дзівіць захапляе апантанасць, з якою пані Фолтын спраўляе свой сённяшні асветніцкі чын. Яна ўзначальвае Таварыства сяброў Станіслава Манюшкі і апекуецца справаю шырокай прапаганды ягонай музыкі ў свеце.

Госця з Польшчы прыехала па запрашэнні Міністэрства культуры Беларусі, і ў адзін з дзён яе візіту было наладжана кранальнае падарожжа на радзіму Манюшкі.

За тры дзесяткі кіламетраў ад Мінска — тая зямля, на якой некалі трывала стаяў фальварак Убель, радзінная сядзіба кампазітара: драўляны дом з мезанінам і калонамі, надворныя пабудовы, а воддаль, у ландшафтным парку, каплічка-пахавальня... Роўна 50 гадоў таму, у разгар вайны, усё гэта знішчыў агонь. Але дадаць: «і знаку не засталося» — будзе няпраўдай. Знак ёсць, і не адзін.



Дырэктар музея С. Манюшкі І. НЕСЦЯРОВІЧ; злева А. МАЛЬДЗІС.



Хлеб-соль прымае пані М. ФОЛТЫН; злева дырэктар Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі С. КОСЦІН, справа І. ЧЫГРЫНАЎ.



Тут будзе адноўлена сядзіба. На здымку ў першым радзе — заснавальнік музея С. Манюшкі В. НЕСЦЯРОВІЧ, намеснік міністра культуры Беларусі У. ГІЛЕП, пасол Рэспублікі Польшча А. СМУЛЭК, спявачка Н. КАЗЛОВА, М. ФОЛТЫН, музыказнаўца Э. ЯЗЕРСКАЯ.

Фота М. ЗЮЛКОЎСКАГА.

Даўно ўжо ў тамтэйшай школе размясціўся музей Манюшкі. Адзіны ў свеце! І заснаваў яго сапраўдны беларускі інтэлігент-першапраходзец, колішні настаўнік Васіль Васільевіч Несцяровіч. Не адзін год быў ён дырэктарам музея, падтрымліваў сувязі з апалагетамі Манюшкі ў Польшчы, перадусім з пані Фолтын, займаўся пошукавай працай, вадзіў экскурсіі. А побач гадавалася дачка Ірына. Нядаўна яна зрабілася пераемніцай бацькі, узначаліла музей.

Да прыезду гасцей на сцяне музея заззяла абноўленая шыльда. І адкрыць гэты своеасаблівы памятны знак папрасілі сустрэтую рытуальным хлебам-соллю Марыю Фолтын. Былі й прамовы, кароткія ды шчырыя. Першы намеснік міністра культуры Беларусі У. Гілеп заўважыў, прынамсі, што мясцовая грамадскасць штогод ушаноўвае памяць славутага земляка, але ўсім разам ужо цяпер варта падумаць пра падрыхтоўку да юбілею С. Манюшкі. Варта прыкласці намаганні, каб цудоўная экспазіцыя музея пераехала ў адбудаваны Убель.

У тое, што аднаўленне Манюшкавай сядзібы — не пустая фантазія, а ўжо абгрунтаваная мэта, паверылася адразу. Бо У. Гілеп з удзячнасцю паведаміў, што пані Фолтын прывезла 1 тыс. долараў, каб зрабіць свой першы ўзнос у беларускі фонд Манюшкі. Да слова, удзельнікі вандроўкі пазней правялі арганізацыйнае пасяджэнне новага фонду і старшынёю яго аднадушна выбралі мастацкага кіраўніка «Беларускай Капэлы» В. Скарабагатава, які поруч са сваімі творчымі партнёрамі ўжо нямала зрабіў і для ўшанавання памяці Манюшкі, і для вяртання я.знай постаці ў кантэкст беларускіх культурна-гістарычных арыенціраў.

У цяперашнім жа музеі, анфілада пакояў якога дзівосным чынам узнаўляе добрую атмасферу цёплага, утульнага правінцыйнага жытла, узнікае прыемная ілюзія наведання сапраўднага Манюшкавага дома, які мог быць прыстанкам для неспакойнай творчай душы. Дома, дзе захавалася цяпельца праўдзівай гісторыі.

Змястоўную экспазіцыю, у якой сярод іншага ёсць рэдкасны поўны збор твораў кампазітара, трэба разглядаць няспешна. Экскурсію І. Несцяровіч трэба слухаць уважліва. Каб не прапусціць расказ пра мінскі ды віленскі перыяды, вызначальныя для музыканцкай, мастакоўскай асобы С. Манюшкі, — іх жа чамусьці старанна абмінаюць біёграфы, засяроджаныя на 12-ці апошніх ягоных гадах — варшаўскіх...

Слушна заўважыла пасол Рэспублікі Польшча пані Альжбета Смулэк: на жыццё Манюшкі выпалі дзве супольныя для нас, беларусаў ды палякаў, палітычныя падзеі — два гістарычныя паўстанні, якія не маглі не адбіцца на патрыятычным духу творчасці кампазітара, як не магло не выявіцца ў ягонай музыцы мноства фальклорных матываў, пачэрпнутых на гэтай зямлі.

Прачулых слоў пра беларускую зямлю, калыску музычнага таленту, было нямала. Старшыня Фонду культуры І. Чыгрынаў, стоячы ля сціплай памятнай стэлы на месцы спаленай сядзібы, са смуткам разважаў пра вялікую несправядлівасць акалічнасцяў, калі людзі паміраюць не там, дзе яны нарадзіліся. Але ж Манюшка, чый талент спеў на беларускай зямлі, праз усё жыццё нёс з сабою яе сокі, яе гукі, яе краскі, яе росы, яе водар, яе дух і выказваў гэта ў музыцы. Таленты маштабу Манюшкі нельга дзяліць паміж народамі, вылучаючы, што тут сваё, а што «чужое». Культура, як падкрэсліў І. Чыгрынаў, — нібы паветра, якое немагчыма падзяліць, бо яно агульнае, належыць нам усім і мы ўсе дыхаем гэтым паветрам.

Але як жа без музыкі? Госці ды гаспадары сабраліся ў клубе санаторыя, пабудаванага на гэтых землях новым уладальнікам — Мінскім трамвайна-тралейбусным упраўленнем (насельнікі фальварка такое і не сасніл б!). Атрымалася штосьць больш значнае, чым традыцыйны канцэрт. Гожай прэлюдыяй прагучалі развагі нашага навукоўца А. Мальдзіса пра беларуска-польскае культурнае памежжа, пра станаўленне Манюшкі-кампазітара, пра яго неадлучнасць ад вытокаў беларускай прафесійнай музычнай творчасці, дзе прызнаны польскі класік паказаў, як менавіта на беларускім фальклоры можна рабіць шэдэўры. Музыказнаўца Э. Язерская прадставіла салістаў беларускай оперы, якія разам з М. Фолтын выступалі на ўрачыстасцях у гонар С. Манюшкі ў Мінску 14 гадоў назад, — Н. Казлову ды М. Жылюка. У суправаджэнні Л. Максімавай яны спявалі папулярныя рамансы Манюшкі — у перакладзе на рускую і па-польску.

Амаль цалкам прагучала праграма В. Скарабагатава і піяністкі Г. Каржанеўскай «Манюшка на радзіме», з каментарыямі саліста. У ёй тэксты ўсіх твораў перакладзены на беларускую, пераважна У. Мархелем. (Адну песню, у якасці сюрпрыза для замежных гасцей, В. Скарабагатаў выканаў па-польску). Прэм'ера праграмы, як вядома, адбылася падчас фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», спарадзіўшы тады надзею, што паўторыцца яна і на самой Манюшкавай радзіме. Вось і спраўдзілася...

Расчуленая пані Фолтын таксама захацела спяваць. Не адразу знайшлі ноты разгубленыя калегі, не ладзіўся акампанемент.. Але экстравагантная, энергічная, неўтаймоўная госця абышлася ўрэшце без яго і заслужыла шчодрую авацыю.

У поліфаніі апладысментаў было і захапленне госцяй, і ўдзячнасць арганізатарам гэтай сустрэчы, немалаважнай і для палякаў, і для беларусаў, і для нашай культурнай еднасці. І яшчэ была калі не ўпэўненасць, дык цвёрдая надзея, што на фоне маладога сасонніка, у акаймоўцы заснулага да вясны раскошнага бэзавага кустоўя паўстане-такі дом. Вядомы паводле дакументаў напаўсялянскі, напаўшляхетны фальварак Убель. Да юбілею С. Манюшкі — цэлых шэсць гадоў...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# НЕ ВАРАГАВАЦЬ, А ПАВАЖАЦЬ

У трэцім нумары «ЛіМа» за 15 студзеня гэтага года быў надрукаваны артыкул В. Савіцкага «Можа, хто пачуе?» — пра Дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту. Цяпер, у так званы рынячны перыяд, калі ў Беларусі лютуе, не пабаюся сказаць, мафія, зграі кааператараў, спекулянтаў, то, канешне, толькі аднаму Богу вядома, калі будзе скончаны музей пад адкрытым небам. Адно ў пранырлівых вараціляў усё ідзе добра. Вакол Мінска ва ўсіх кірунках, нібы грыбы, растуць шматпавярховыя катэджы прыватнікаў, там удосталь і рабочай сілы, і тэхнікі, і будаўнічых матэрыялаў.

Праблем у музея хоць адбаўляй, але ўжо і шмат зроблена. Пабудаваны этнаграфічны сектар «Цэнтральная Беларусь», блізкія да завяршэння «Паазер'е», «Падняпроўе».

Напрыклад, сектар «Цэнтральная Беларусь» — гэта жамчужына музея пад адкрытым небам. Тут, на маляўнічым узвышшы, сабрана каля двух дзесяткаў унікальных помнікаў народнага дойлідства канца XVIII і пачатку XIX стагоддзяў. І калі з утульнай вулачкі завітаеш на адну сялянскую сядзібу, на другую, дык сэрца цешыцца радасцю, нібыта сам трапляеш у тыя далёкія мінулыя часіны. Гэты сектар, што нагадвае маленькую вёску, утвораны непадобнымі адна да адной хатамі, да якіх туляцца рознія гаспадарчыя пабудовы: хлявы, клеці, свіронкі.

У панараму «Цэнтральнай Беларусі» ўдала ўпісваецца вясковая школка, карчма, вятрак, кузня. А завяршае гэты старадаўні архітэктурны ансамбль дзівосная драўляная царква.

Прадстаўнік канцылярыі Мінскай епархіі звяртаўся да дырэктара музея з прапановаю адкрыць царкву для служэння. Дырэктар і сам зацікаўлены, каб царква дзейнічала, тым больш, што ў фондах музея захоўваецца багатая калекцыя абразоў і другіх царкоўных рэчаў. Але, на жаль, музей пад адкрытым небам яшчэ недасканала ахоўваецца і існуе небяспека ад людзей, у якіх за душою няма нічога святога.

А праблемы?

Самы страшны тормаз у далейшым будаўніцтве музея — гэта вельмі нізкія разліковыя расцэнкі. Праца тут галоўным чынам рэстаўрацыйная, марудная, патрабуе ад рабочага шмат клопату і часу, а месячны заробак складае не больш як 4—5 тысяч рублёў. Хто з майстроў высокага класа, якія гэтак патрэбны музею, пойдзе сюды працаваць? Па аб'явах прыходзяць толькі тыя, якіх не бяруць там, дзе плацяць дваццаць і больш тысяч рублёў. Мізэрныя расцэнкі не даюць магчымасці сабраць брыгаду высокакваліфікаваных майстроў, ужо не кажучы пра народных умельцаў.

У гэты перыяд нестабільнасці і беззаконня музей перажывае асабліва цяжкія часіны, ад яго нібы адвярнуліся і праваахоўныя органы.

Не так даўно музей праз Мінскі гарвыканкам набыў у горадзе Мінску драўляны дом — помнік народнай архітэктуры. А праз колькі дзён гаспадар гэтага будынка (якога забяспечылі дзяржаўнай кватэраю), учыніўшы хуліганскі разбой супраць работнікаў музея, разам з брыгадаю рабочых пагрузіў бярвенні на машыну і павёз на дачу. Ні суд, ні міліцыя нічога не зрабілі, каб вярнуць дом, а вінаватага пакараць.

У 1991 годзе музей заключыў дагавор з Мінскім трэстам зялёнага будаўніцтва на пасадку чатырох тысяч дрэўцаў розных парод. Яны зрабілі пасадку... зімою, калі замерзла зямля. Пасадзілі неахайна, вясною саджанцы з аголенымі каранямі пападалі на зямлю і амаль усе загінулі. Перапіска з начальнікам Мінскзеленбуда і міністрам камунальнай гаспадаркі да гэтага часу не далі ніякага плёну.

В. Савіцкі ў сваім артыкуле выказвае трывогу, што псуюцца музейныя будынкі. Гэта агульная бяда ўсіх музеяў пад адкрытым небам. Нежылыя драўляныя пабудовы, што не ацяпляюцца ў халады і вільготнае надвор'е, хутка псуюцца; асабліва бязлітасны наш, беларускі, клімат, і ў гаспадарчай службы музея нагляду музейных аб'ектаў шмат клопатаў.

Як ні прыкра, шаноўны спадар В. Савіцкі, але я вымушаны нагадаць, што вашы аднавяскоўцы (дарэчы, правільная назва вашай вёскі не Строчыцы, як вы пішаце, а Строчыца) прычыняюць шмат шкоды экалогіі музейнай тэрыторыі. І хочацца спытаць у вас, ці хоць адзін раз вы гаварылі са сваімі родзічамі і суседзямі, каб яны тут не пасвілі жывёлу, каб не ссякалі дрэвы, каб не пратоптвалі сцежкі, ідучы на аўтобусны прыпынак? Пэўна не гаварылі, бо гэтак часта супрацоўнікі музея не скардзіліся б у сельскі Савет на вашых аднавяскоўцаў.

Музеем кіруе Г. Ткацэвіч, шчыры беларус, чалавек высокай культуры, які дасканала ведае жыццё і побыт нашых продкаў. Увесь свой час ён аддае музейнай працы і шмат зрабіў.

Летась у музеі адбылася тыднёвая міжнародная канферэнцыя прадстаўнікоў этнаграфічных музеяў пад адкрытым небам Расіі, Украіны, Польшчы, Малдовы. Першы намеснік міністра культуры У. Гілеп расказаў гасцям пра стварэнне беларускага этнаграфічнага музея і які ён будзе, калі скончыцца будаўніцтва. Музей збярэ самыя унікальныя і цікавыя помнікі Беларусі, якія маюць гістарычную і культурную каштоўнасць.

Беларускі этнаграфічны музей ужо сёння любімы куток мінчан і гасцей сталіцы. Асабліва летам тут шмат экскурсантаў з Беларусі і турыстаў з краін Захаду і Амерыкі.

Але музею патрэбна дапамога.

**М. КОРЗУН,**
**пісьменнік.**

# ХТО ДАПАМОЖА?

Вядома бадай што ўсім, як многа назваў нашых гарадоў, мястэчак і вёсак было знявечана за гады, калі Беларусь знаходзілася пад польскім панаваннем і расійскім уладараннем. Не захаваліся ў аўтэнтычным выглядзе не толькі назвы ўсіх нашых сталіц, пачынаючы ад Навагрудка і канчаючы Менскам — працэс асіміляцыі дастаў нават глухія вёскі.

Аднаўленне яшчэ толькі-толькі пачынаецца. Ужо можна сустрэць у прэсе і Рáдашкавічы, і Навáградак, і іншыя назвы ў тым выглядзе, як яны бытуюць у народзе. Але ж гэта толькі пачатак. Наспела неабходнасць, каб была створана ўрадавая камісія, якая б правяла афіцыйную нармалізацыю ўсёй тапанімікі і гідранімікі Беларусі, надаўшы нашым аўтэнтычным назвам юрыдычную сілу.

Пакуль што гэта не робіцца. Больш таго, цяпер, з пашырэннем сферы афіцыйнага ўжытку беларускай мовы, дзяржаўныя службоўцы і прэса транслітэруюць на беларускую мову з рускамоўных крыніц скажоныя назвы, пускаюць іх у пісьмовы і вусны зварот і гэтым замацоўваюць, прыдаюць ім афіцыйны статус. Потым перапраўляць будзе цяжэй.

Возьмем, напрыклад, адну тапанімічную назву — Мір. Уся наша прэса і эфір няправільна ўжываюць націск, даюць формы з націскам на аснове: у Міры, Мірскага замка і г. д. А гэта ж зусім не адпавядае мясцоваму вымаўленню!

Назва нашага мястэчка ва ўсіх ускосных склонах мае націск на канчатку: ля Мірá, у Міры́, за Мірóм. У прыметніках — таксама: мірскі, мірскóга, мірскóму і г. д. Толькі ў слове Міршчына маем націск на аснове.

Дзіўна вось што. Тады як у нас дома, на Беларусі, дзе можна ўсё гэта нават рукамі памацаць, набывае афіцыйны статус фальшывая форма, радыё «Свабода» дало правільнае гучанне: у Міры́, Мірскі замак. Чамусьці яны ведаюць, як народ гаворыць.

Ведаюць і ў нас! Хачу напомніць чытачам, хто слухаў peраднавагоднае інтэрв'ю В. Ф. Кебіча, якое вёў А. Майсеня па-руску. Журналіст увесь час гаварыў в Міре, а Вячаслаў Францавіч яго падпраўляў: правильно, наверное, в Миpý. Бліжэй да ісціны! Націск на канчатку. Але, калі гаварыць па-руску, то правільная форма давальнага склону — в Мирé (як во дворé), а па-беларуску — у Міры́.

Дык хто дапаможа зацвердзіць-усталяваць ісціну? Я думаю, што шукаць дапамогі за морам няма патрэбы. «ЛіМ» дапаможа, калі надрукуе гэты ліст.

**І. КРАМКО,**
**тубылец з Мірá.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# Угледзімся ў гэтыя твары...



Паважаны чытач, паглядзі на гэты здымак: яму ўжо больш за паўвека. Стаяць злева направа: Бабpоўскі Фелікс Рамуальдавіч — дырэктар школы, Кіраеў Піліп Ігнатавіч—старшы бухгалтар райфінаддзела, перад арыштам старшыня Талачынскага райвыканкама. Сядзіць злева—Бабpоўскі Уладзіслаў Ігнатавіч.

Каб гэты здымак убачыў былы следчы НКУС малодшы лейтэнант Лешчанка (калі жывы), дык траіх вышэйнагаданых асоб ён бы назваў агентамі польскай разведкі, якіх ён «выкрыў» у канцы 1937 года ў Талачыне. К гэтаму часу мой бацька Бабpоўскі Ф. Р. працаваў дырэктарам школы ўжо ў Барысаве. 18 снежня прыехалі з Талачынскага раёна супрацоўнікі НКУС і бацьку арыштавалі. Я нават памятаю, як адзін з энкавэдзістаў падчас вобыску адкрыў маю бляшанку з цукеркамі. Больш я бацьку не бачыў. У 1957 годзе з Ваеннага трыбунала Беларускай Ваеннай акругі нам паведамілі, што ён рэабілітаваны пасмяротна. Я нават атрымаў пасведчанне аб смерці, выданае Талачынскім ЗАГСам, дзе ўказана, што ён памёр ад тыфу 16.12.43 г. па месцы зняволення. Але ў мінулым годзе я даведаўся, што яго расстралялі ў Оршы 28.12. 1938 г.

У Новасібірскай вобласці жыве дачка Кіраева—мая цётка Кіраева Ала Піліпаўна. Мы з ёй перапісваемся. Я ёй напісаў, каб яна падала заяву аб рэабілітацыі бацькі. Яна так і зрабіла, і ў сакавіку мінулага года Кіраева П. І. таксама рэабілітавалі пасмяротна. Дарэчы, у Ваенным трыбунале мне ўдалося прачытаць яго справу. З яе я даведаўся, як была сфабрыкавана справа на майго бацьку, Кіраева і яшчэ на настаўнікаў В. Бабpоўскага, А. Адзерыка і Пашкевіча (імя апошняга не помню). Быццам бы ўсе яны былі завербаваны ў Магілёве польскім шпіёнам настаўнікам Д. Касінцовым яшчэ ў 1933 годзе.

Пратакол допыту ярка сведчыць аб метадах выбівання прызнання тагачаснымі следчымі НКУС, тым жа Лешчанкам. «Дзе цяпер Касінцоў Дзмітрый?»—пытаецца ён на допыце ў Кіраева. «Памёр у 1936 годзе»,—адказвае той. Але што ад гэтага таму следчаму! Яго задача—даць ход высмактанай з пальца справе, дамагчыся «прызнання». А як яго дамагаліся тады, мы ведалі. Прывяду невялікую вытрымку з абвінаваўчага заключэння адносна Ф. Кіраева. «Кіраеў Ф. І. з'яўляецца агентам польскай разведкі. Завербаваны Касінцом Д. І., цераз яго атрымаў заданне ад польскай разведкі аб правядзенні шпіёнскай работы на тэрыторыі СССР на карысць Польшчы. У 1933—1934 годзе праводзіў агітацыю сярод мясцовага насельніцтва, хваліў Польшчу і выяўляў людзей, незадаволеных Савецкай уладай. У 1936 годзе праводзіў шкодніцкія работы ў сістэме райфо. Налічаў налогі на сялян-аднаасобнікаў у некалькі разоў больш, чым па законе. Гэтым самым выклікаў азлабленне сялян на Савецкую ўладу. Віноўным сябе прызнаў. Следчая справа нумар 26384. У час арышту працаваў старшынёй Талачынскага райвыканкама. Жанаты. Мае жонку і дваіх дзяцей. Беспартыйны. Не судзімы. У РККА не служыў. Грамадзянін СССР. Накіраваць на разгляданне ў НКУС СССР, генеральнай калегіі КДБ тав. Яжову.

Пасяджэнне камісіі і пракуратуры СССР ад 13.11.37 г. пастанавіла: Кіраева расстраляць. Прыгавор выкананы 26.11.37 г. у г. Орша».

Сёння нашых бацькоў рэабілітуюць. Але гэтым справядлівасць сцверджана толькі напалову. Чаму ўслых не называюць імёны тых, хто вінаваты ў іхніх пакутах і смерці? І гэта не пазіцыя—«вока за вока». Проста не маюць сёння права на спакойнае, камфортнае існаванне людзі, на чым сумленні стольскі крыві.

Дарэчы, ужо ў 1988 годзе, пры перабудове, у Талачыне выйшла кніга «Память»—гісторыка-дакументальная хроніка раёна, і ў ёй не знайшлося месца для прозвішчаў ахвяр сталінскіх рэпрэсій. А, між іншым, многія з іх былі рэабілітаваны яшчэ пры Хрушчове, іх справы можна было знайсці ў Віцебскім КДБ.

І апошняе. 4 лістапада 1990 года на Кабылянскай гары, каля вёскі Андрэеўшчына Аршанскага раёна, дзе ў канцы 30-х гадоў праводзіліся расстрэлы сталінскіх вязняў і дзе сустрэлі сваю апошнюю хвіліну мае бацька і дзед, мясцовай грамадскасцю быў пастаўлены крыж з надпісам «Ахвярам генацыду».

Летам я быў у Оршы і ўсклаў кветкі да гэтага помніка. Тое самае збіраўся зрабіць летась і ў дзень памяці — «Дзяды». 2-га лістапада спецыяльна прыехаў у Оршу, купіў кветкі і накіраваўся на Кабылянскую гару, але крыжа ўжо не было... Хто ж зрабіў гэтае кашчуннае злачынства? Відаць, ідэйныя паплечнікі тых, хто знішчыў крыж, устаноўлены ў Курапатах, каля Мінска. Знаёмы почырк...

**У. БАБРОЎСКІ,**
**ветэран працы.**

# НА ВЫШЫНІ АБСУРДУ

**Уладзімір КАЛЕСНІК**

«НЕ будзем заглыбляццца ў сэнс пачутага» — з горкай ухмылкай прыгадваецца мне фраза са сцэнарыя сучаснага дакументальнага фільма пра Янку Купалу.

Загалоўкам для твора паслужыла цытата з адкрытага пісьма Купалы, адрасаванага рэдакцыям заходнебеларускіх і польскіх газет некамуністычнага кірунку, якія ў 1931 годзе пахопліва надрукавалі сенсацыю пра самагубную смерць беларускага песняра ў турме. Адкрытае пісьмо не толькі абвяргала сенсацыю, але напускалася на прэсу за зланамыснасць: глядзіце, як нацдэмы за кардонам у шалёнай нянавісці жывым хаваюць народнага паэта. Тон і склад таго адкрытага пісьма не Купалаў, ажно пішчыць там жаргон закапёршчыка вульгарнага сацыялагізму Лукаша Бэндэ, які распраўляўся са сваімі праціўнікамі рукамі ГПУ, дапамагаў следчым выкрываць ворагаў пралетарскай дыктатуры ў мастацкай літаратуры. Так глядзець на пісьмо схіляе мяне выпадак: калісьці здарылася мне натрапіць на машынапісны тэкст памянёнага пісьма ў архіве ЦК КПБ. Калі б Купала сам, па сваёй волі, паслаў нейкай газеце адкрытае пісьмо, дык чаго б яно трапіла ў партыйны архіў? З другога боку, заходнебеларуская прэса хутка спахапілася і пачала папраўляць памылку. Напрыклад, «Шлях моладзі» ў лютаўскім нумары за 1931 г. паведамляў пра самагубства прэзідэнта Беларускай акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага і дадаваў: «...сябе параніў Янка Купала». Праўда, палітычныя матывы самагубных актаў ацэньваліся часопісам востра: «Зрабілі яны гэта з прычыны небывалага здзеку камуністаў над імі за іх беларускія народныя імкненні. Беларускі народ павінен добра сабе запамятаць гэта». Не ўяўлялі аўтары, што ў таталітарным рэжыме нават намёк на помсту — індульгенцыя службоўцаў дзяржбяспекі, апраўданне расправы з тымі жыхарамі Заходняй Беларусі, якія паўцякалі ў Савецкі Саюз, верачы, што там збудаваны беларускі дом, прыстанішча для ганімых. А ўладары дому пачалі ператвараць гасцей у польскіх шпіёнаў.

У такім д'ябальскім кантэксце працуе лапідарная фраза, якую аўтары сцэнарыя пра Купалу вынеслі ў загаловак: «Ніколі я не паміраў». Абсурдна жывому запэўніваць свет, што ён ніколі не паміраў, то ж вядома: паміраюць адзін раз. Праўда, у ліхалецці здараецца шчаслііўцам перажываць сваю смерць і не адзін раз вяртацца з таго свету. Адкрытае пісьмо запэўнівае, што Купала ў такіх калізіях не быў, і ў яго жыцці пры савецкай уладзе ўсё ідзе ладна ды складна. Нават больш: ад усіх пагроз яго надзейна абараняе «дыктатура пралетарыяту». Пацешна?...

Сапраўды, паэт цяжка параніў сябе нажом дома, у спальні, вярнуўшыся ноччу з чарговых запросін ГПУ для «беседы». Быў на валасок ад смерці, два месяцы мінскія медыкі змагаліся за яго жыццё, нават сакратар ЦК КП(б)Б Гей чакаў лятальнага зыходу і дзеля перастрахоўкі паінфармаваў пра выпадак Сталіна, які нядаўна прыслаў гэтага функцыянера ў Беларусь са спецзаданнем: ачысціць рэспубліку ад ворагаў. Кампанія чыстак перарасла ў вакханалію рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі і сялянскіх эліт, што выраслі тут за гады нэпа.

Наткнуўшыся ў 1929—30 гг. на супраціўленне сялян прымусовай калектывізацыі, апарат дыктатуры зваліў віну на актывістаў нацыянальнага Адраджэння. Органамі ГПУ былі сфабрыкаваны дзве версіі пра змоўніцкія арганізацыі — Саюз вызвалення Беларусі і Беларускі нацыянальны цэнтр, якія нібыта намерваліся сілай захапіць уладу ў БССР, разлічваючы на інтэрвенцыю Польшчы, антыкалгасныя хваляванні заможных сялян, тэрарыстычную дзейнасць баевікоў. Прыдумка выглядала быццам верагоднай, бо крыўда патрабуе адплаты. Арганізаваных выступленняў не было, дык агітатары і паслужлівыя журналісты нанюхвалі крыху дэтэктыўных выпадкаў, а адданыя рэжыму крытыкі навысмыквалі з мастацкіх твораў «варожых падтэкстаў». Ва ўстановах навукі, асветы і культуры былі праведзены чысткі, выганяліся нелаяльныя.

З элітных сялянскіх сем'яў паходзіла значная частка старажылаў Парнаса, між іншым, Янка Купала, радня Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка і іншых папулярных дзеячаў. Наогул Адраджэнне было кроўна звязана з вёскай, таму сярод дзеячаў узнікла спачуванне, тым, каго крыўдзілі. На мове бальшавіцкай этыкі, перакошанай ад класавай пільнасці, такое спачуванне называлася салідарнасцю з ворагам і давала повад для даносаў, арыштаў, допытаў, пакаранняў.

Прымяняючы прыёмы псіхічнага «изнурения», следчыя прымушалі арыштаваных сведчыць супраць сябе. Такім следствам было «пацверджана» існаванне міфічных арганізацый СВБ і БНЦ, апісана іх структура, кіраўніцтва, нават графік тэрарыстычных актаў і повязі з польскай дэфензівай. У горах следчых дакументаў сабрана столькі хлусні і муці, што сённяшнія юрысты разводзяць рукамі: існаванне СВБ і БНЦ не даказана, а ў дзейнасці арыштаваных няма крыміналу. Па законах жа дыктатуры 86 беларускіх актывістаў — вучоных, пісьменнікаў, асветнікаў было выслана ў красавіку 1931 года з Беларусі на пасяленне ў Расію — ад Вяткі да Астрахані, каля дзесяці чалавек трапілі ў канцлагеры. Тэрмін пакарання быў вызначаны камуністычна: усім па пяць гадоў.

Па справе Беларускага нацыянальнага цэнтра ў 1934 годзе за кратамі апынуліся лідэры Беларускай сялянска-рабочай Грамады, пасольскага клуба Змаганне, паслы польскага сейма, сярод іх вядомы грамадскі дзеяч і педагог Сымон Рак-Міхайлоўскі, доктар філасофіі, асветнік, перакладчык, выпускнік Карлавага універсітэта Ігнат Дварчанін, папулярны ў Заходняй Беларусі малады паэт Алесь Салагуб і іншыя ўдзельнікі беларускага рэвалюцыйнага і нацыянальнага вызваленчага руху. Многія з іх трапілі ў БССР у парадку абмену палітвязнямі паміж савецкім і польскім урадамі ў верасні 1932 года і атрымалі гарантаваны прытулак у БССР. Пасля няцэлых 2-х гадоў прабывання ў БССР іх аб'явілі шпіёнамі і дыверсантамі і засудзілі да смяротнага пакарання.

Трэба бачыць усе жахі і абсурды часу, калі мы хочам разумець паводзіны ахвяр і спагадаць ім. У сцэнарыі фільма гэтая ідэя выказана цераз парадоксы жанру: дакументальны твор, якім з'яўляецца сцэнарый, прыпадабняецца да відовішчаў абсурду. Дарэчы, у такім жа ключы нядаўна пастаўлена на сцэне акадэмічнага тэатра ў Менску п'еса Купалы «Тутэйшыя». Яна — твор мастацкі, там інверсія дапушчальна. Праўда, п'еса напісана ў 1919 годзе, калі яшчэ нават еўрапейскі авангард не дайшоў да камедыі абсурду. Сёння модна пераніцоўваць жанры, таму і палітычная сатыра Купалы пераапранаецца ў модную вопратку, амаль усе героі дзівачаць, істэрызуюцца да непрытомнасці. Купалава ідэя незнарок вязне ў ірацыянальным. Я сумняваюся, ці варта было аўтарам дакументальнага фільма базіравацца на асучасненым спектаклі па п'есе «Тутэйшыя», якая гратэскава паказвала феерверкавыя змены ўлады на Беларусі і безалабернае рэагаванне на хаос і жахі збітых з панталыку абывацеляў і свядомых патрыётаў, што ў бедламе гісторыі спрабавалі рэалізаваць ідэю вольнай Беларусі і трымаліся дастойна. У 30-я гады бальшавіцкая люмпенізаваная дыктатура адным махам знішчыла беларускае Адраджэнне пад воклічы агітатараў і задурманеных мас.

Адзіным арганізацыйным інструментам беларусізацыі ў 30-я гады была Дзяржаўная камісія па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі пры ЦВК БССР, яе аддзелы існавалі ў выканаўчых камітэтах акруг. Яна займалася перадусім беларусізацыяй дзяржаўнага апарата, устаноў, грамадскіх арганізацый і дабівалася значных поспехаў: калі ў 1925 годзе толькі 22 % адміністрацыйных кадраў валодалі беларускай мовай, дык у 1926 іх было 54 %, а ў 1927 — 81 %. Не ведалі ці не хацелі ведаць беларускай мовы 19 %. Вось гэты бязмоўны баласт адыграў фатальную ролю ў гісторыі народа — лёг каменем на дарозе да нацыянальнага Адраджэння і зларадніўчаў. Поспех рэпрэсій пацвердзіў, што камень гэты абапіраецца на скалу расійскага вялікадзяржаўніцтва, з ім зрастаецца, з ім змаўляецца «усмирять» беларусаў.

Ва ўсім СССР, ва ўсіх палітычных працэсах арыштаваныя прызнавалі сябе вінаватымі, абгаворвалі сябе. Для еўрапейцаў гэта была неўразумелая анамалія. Пасля смерці Сталіна савецкія публіцысты і гісторыкі паспрабавалі адкрыць тайны фірмаў Ягоды, Яжова, Берыя і іх беларускіх паплечнікаў — Апанскага, Рапапорта, Бермана, Наседкіна, Цанавы. Але ж даследчыкі натыкаліся на закрытыя дзверы спецархіваў і на крымінальны кодэкс законаў СССР і БССР, дзе прызнанне і саманагавор прызнаваліся за самы важкі доказ віны.

Сёння большы попыт мае выяўленне жахаў і асуджванне. Пранікаць у сутнасць, дакопвацца да прычын цяжка ды і растлумачаны жах не так шакіруе чытача, як паказаны голенькім.

А ўсё ж да прычын трэба ісці, прытым з розных бакоў. Я, як гуманітарнік, думаю, што псіхалагічнай базай саманагавораў з'явілася раптоўнае сутыкненне ідэалізму арыштаваных інтэлігентаў з бездухоўнасцю знячуленых ахоўнікаў дыктатуры ў асобе следчых. Зласлівым здаецца мне альянс ідэалагічнага апарату з рэпрэсіўным. Першы ціснуў на другі, узбройваў яго фантазмамі, якія трэба было толькі ператварыць у крымінал. Злавесную місію адыграў у Беларусі летам 1929 года рэйд спецбрыгады Камісіі партыйнага кантролю ЦК ВКП(б) пад кіраўніцтвам В. Затонскага, які выявіў «гняздо нацдэмаўскай контррэвалюцыі» ў БССР ды падахвоціў сваім дакладам вярхоўную ўладу абнавіць кіраўніцтва партыйным і рэпрэсіўным апаратам ды расправіцца з адраджэнскім рухам, які перавёў, па думцы дакладчыка, адносіны паміж уладай і грамадзянамі на таварыскую ці братэрскую нагу.

Развенчванне культу асобы Сталіна пасля яго смерці і выкрыванне злачынстваў, учыненых рэжымам пралетарскай дыктатуры, праходзіла ў краіне цяжка і марудна, рабілася яно як бы не сваімі рукамі, бо запэцканым у беззаконне і рэпрэсіі аказаўся партыйны і дзяржаўны апарат. Як падлічыў гісторык У. Міхнюк, у Беларусі працэс рэабілітацыі па справе СВБ прайшоў ажно пяць этапаў. Падставай для рэабілітацыі спачатку лічылася недаказанасць існавання самой СВБ, але вінаватасць асуджаных захоўвалася, бо злачынствам жа лічылі і такую хімеру, як «антысавецкая агітацыя», «антысавецкія размовы». Моцны імпульс рэабілітацыйнаму працэсу дала пастанова Вярхоўнага суда БССР ад 10 чэрвеня 1983 года — усю справу СВБ «спыніць за адсутнасцю саставу злачынства». Цяпер ідзе шосты этап рэабілітацыі на аснове пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая зыходзіць з прынцыпу, што палітычныя погляды грамадзян не могуць быць прадметам судовага праследавання, паколькі гэта пярэчыць міжнародным законам аб правах чалавека.

Паводле падлікаў, зробленых У. Міхнюком, па справе СВБ летам 1930 г. было арыштавана 108 чалавек, у ходзе следства 18 арыштаваных было выпушчана з-пад арышту, а справы іх спынены. Неўзабаве была выдзелена і ў першую чаргу разгледжана справа камуністаў Дз. Прышчэпава, А. Баліцкага, А. Ф. Адамовіча, П. Ільючонка. Кожны з іх атрымаў па 10 гадоў канцлагера. Астатнія 86 чалавек падвялі да прыгавору ў красавіку 1931 г. Следства падзяліла іх на тры катэгорыі: тых, што прызналі сябе вінаватымі, было 25 чалавек, не прызнаўшых аказалася больш за 40 і прызнаўшых сябе вінаватымі часткова — 25 чалавек. Паказальна, што для вынясення вердыкту судовай калегіі АДПУ гэта не мела рашаючага значэння, пакаралі амаль усіх пораўну: 78 чалавек атрымала па 5 гадоў ссылкі, 7 чалавек — па пяць гадоў і адзін — 3 гады канцлагера.

Вялікі працэнт не прызнаўшых віны, па думцы У. Міхнюка, стрымаў «беларусафобаў» ад намеру ўчыніць паказальны працэс, як гэта зрабілі ўлады Украіны ў адносінах да СВУ. Мне здаецца гэтае меркаванне пахоплівым. У пісьменніцкім асяроддзі адразу пасля вайны давялося чуць меркаванне, што гэта Я. Купала перашкодзіў ГПУ правесці судовую справу публічна. Яго спроба самагубства ўзрушыла грамадскасць у БССР і за мяжою, рэпрэсіі сталі ўспрымацца як нацыянальнае зло. У дадатак верхаводы рэпрэсій былі прыезджымі: разам з К. Геем прыехаў у Беларусь новы начальнік ГПУ Р. Рапапорт, а потым з Берманам — Наседкін, з Панамарэнкам — Цанава. Тэрарыстычная палітыка не знаходзіла адабрэння ні дома, ні ў свеце. Самагубства Алеся Чарвякова, які меў рэпутацыю сумленнага, адданага народу дзеяча, зусім падарвала цярпімасць да сілавой палітыкі. Людзі асуджалі прыезджых сталінскіх функцыянераў, якія давялі край да нечуванага ў свеце глуму. Пра Чарвякова хадзілі ў народзе легенды, мне асабіста давялося чуць іх ад сяброў па аспірантуры ў пасляваенныя гады, расказаныя шэптам.

Ужо ў 1930 г. органы ГПУ «выкрылі» ў Беларусі яшчэ некалькі змоўніцкіх прывідаў: філіял працоўнай сялянскай партыі — выслана 59 чалавек; філіял прампартыі — рэпрэсіравана 30 чалавек; філіял «Саюзнага бюро РСДРП (меншавікоў)» — асуджана 30 чалавек і шэраг меншых груп. Беларусь па рэпрэсіях, мабыць, лідзіравала ў СССР, гэтак, як сёння лідзіруе па колькасці войск на сваёй тэрыторыі, якія не заўсёды ведаюць, каму падпарадкоўвацца і ад каго патрабаваць зарплату.

## Тайна салона Купалы

У прыгаданым вышэй сцэнарыі пра Купалу мяне неяк драпанула адна калючка: мінскія адраджэнцы, аматары застольных бясед, называлі Купалаву гасцёўню салонам, а Вацлаў Ластоўскі — карчмою. Калі «не ўдумоўвацца ў сэнс пачутага», як раяць сцэнарысты, дык можна было б ухмыльнуцца — дасціпнік быў спадар Вацлаў. А падумаўшы, дык міжволі спытаеш: а Купала хто? Нядбайла ці прастак, які дазволіў ператварыць сваё гняздо ў карчму ці нават у заезджы двор? Трэба, аднак, мець на ўвазе, што духоўныя важакі нацыянальнага Адраджэння непазбежна збліжаюцца з нізамі грамадства, не крыўдуюць, калі з імі запанібрата гавораць прастакі, дзівакі, вясковыя мудрасловы. Прыгадаем хоць бы жыццё Гандзі, Талстога і стане ясна, што тут норма зусім не смехавая. А ў беларускім руху было прынята даваць зніжаныя назвы месцінам сустрэч адраджэнцаў, прыжылася ж назва Беларуская хатка ў Вільні і ў Менску, калі паставіць побач з ёю карчму без салона, дык аб'екты амаль ураўняюцца ў вартасці. Карчма ж была месцам, дзе сяляне святкавалі святы, а кум з кумою спыняліся для рытуальнага пачастунку пасля хрышчэння дзіцяці.

Ці ж у карчму да Купалы ішоў цвет літаратурнай моладзі — Жылка, Дубоўка, Пушча...

Купала, як мне думаецца, хацеў, каб яго дом стаў сялібай мецэната накшталт пецярбургскай кватэры прафесара Эпімах-Шыпілы, дзе ён сам, яшчэ малады і бедны, жыў на правах сямейніка, вучыўся на розных адукацыйных курсах, пісаў творы, сустракаўся са студэнтамі, згуртаванымі ў беларускае зямляцтва, пазнаёміўся з многімі дзеячамі беларускай культуры, навукі, асветы — ад ксяндза Адама Станкевіча да камуніста Алеся Чарвякова і таленавітага шляхціца, стваральніка першага беларускага танцавальнага ансамбля Ігната Буйніцкага.

Пераехаў у 1927 годзе ягоны дабрадзей Браніслаў Эпімах-Шыпіла ў Менск, прывёз бібліятэку — шэсць тысяч тамоў — цэлы маёнтак, атрымаў ганаровую пенсію ад урада, ордэн, кватэру, пачаў пісаць артыкулы, рэцэнзіі і раптам у 1929 годзе трапіў на зуб маскоўскаму партыйнаму кантралёру Затонскаму, які аблаяў яго уніяцкім папом, місіянерам Ватыкана. Шаноўнага старца арыштавалі, потым выдварылі назад у Ленінград, да разбітага карыта, і памёр мецэнат, тулячыся па чужых кутках, не абагрэты, не аплаканы тымі, з кім дзяліўся хлебам, хатнім цяплом і сэрцам. Сумавалі па дабрадзею Купала і яго гасцёўня.

(Працяг на стар. 14—15).

## Анкета «ЛіМа»




**Нагадваем пытанні, з якімі мы звярнуліся да пісьменнікаў, крытыкаў, іншых гуманітарыяў — са спадзяваннем даведацца, што лучыць іх з творчасцю класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага.**

**1. Калі і пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з прозай Гарэцкага?**

**2. Што ў яго асобе і творчасці падаецца вам вызначальным, сугучным сённяшняму дню, блізкім вам асабіста?**

# АБПАЛЕНЫ ПРОМНЯМІ ЗОРКІ

1. У 1976 годзе. А вось пра абставіны... дазвольце, як кажуць, невялічкае лірычнае адступленне.

Уявіце сабе Брагін (дзе меў я гонар з'явіцца на свет) 70-х гадоў — тыповае беларускае мястэчка з багатай гісторыяй (ад летапіснага 1147 года) і ціхай правінцыйнай рэчаіснасцю, з чэргамі за хлебам і выдатна адладжаным механізмам прамывання мазгоў — сістэмай палітычнай адукацыі, што ахоплівала ці не кожнага брагінца: і сямігадовага акцябронка, і горкага прапойцу з мясцовага вінзавода. Выспай духоўнасці ўзвышалася сярод мястэчковай інтэлігенцыі старэнькі філолаг Аляксандра Кірылаўна Кулініч. Мела яна за плячыма інстытут шляхетных дзяўчат, была нястомным краязнаўцам і сабрала найбагацейшую ў Брагіне бібліятэку. (Дарэчы, ёй дырэктар СШ забараняў выступаць на палітзанятках з-за таго, што ідэалагічна запляміла сябе: і пры нямецкай акупацыі вучыла дзетак). Прывіла Аляксандра Кірылаўна любоў да літаратуры свайму любімаму вучню, майму «малодшаму» дзядзьку Міколу, у кнігазборы якога я і напаткаў «Красные розы» (выбранае на рускай мове) Максіма Гарэцкага. Добра памятаю і сваё першае ўражанне — гэта была сапраўдная класіка, без усялякай паблажлівай скідкі на «беларускасць».

«Чырвоныя ружы», як вядома, Гарэцкі напісаў у латвійскі перыяд жыцця. Таму зноў узгадаў я іх, гартаючы кніжку Кастуся Езавітава «Беларусы ў Латвіі», дзе і ўбачыў Максіма Іванавіча на фотаздымку разам з настаўнікамі і слухачамі Дзяржаўных Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў у Дзвінску.

Чаму ж так позна прыйшла да нас творчасць Максіма Гарэцкага? Таму што, наколькі ведаю, з 1930-га па 1960-ы год кніжкі яго ў БССР не перавыдаваліся, большая частка іх знаходзілася ў спецсховах да пачатку 90-х. А былі ж у 20-я гады даволі распаўсюджанымі. Так, на першавыданнях, да прыкладу, з фондаў Урадавай бібліятэкі стаяць штампы Таварыства «Беларуская Хата» ў Рызе, бібліятэкі «Белдомпросвета» ў Ленінградзе, бібліятэкі Магілёўскай Беларускай Савпартшколы, асабістыя экслібрыс «З кніг А. І. Сідарэнка» і г. д. Ды ёсць на іх і іншыя, больш змрочныя, праскрыпцыйныя надпісы чырвоным алоўкам накшталт: «Пр. № 33-1937» і «Сп. лиц БССР», паводле якіх перапраўляліся адметныя асобы нацыянальнага Адраджэння ў «лица» і гінулі, абпаленыя промнямі злавеснай пяцікутнай зоркі.

2. І да асобы, і да творчасці Максіма Гарэцкага падыходжу я, зыходзячы з ягонага ж вызначэння пра «нацыянальны і сацыяльны» характар літаратуры. Вінавацілі некалі крытыкі Гарэцкага ў «нацыяналістычных тэндэнцыях». Але якраз гэтыя «тэндэнцыі», інакш кажучы, здаровы беларускі нацыяналізм — «чалавецка-беларускі» па выразу самога Максіма Іванавіча — мне здаецца вызначальным і асабіста блізкім.

Таксама адпавядаюць, лічу, сённяшняму дню нацыянальна-адраджэнскія матывы «Лірных напеваў» — з іх папярэджаннем пра небяспеку «магутнай бесканечнай Маскоўшчыны», «у 1920 годзе» — з праўдай пра беларускіх сялян, «варожа настроеных супраць маскоўска-бальшавіцкага наезду». Не ведаю, як паважанаму Радзіму Гарэцкаму, з якім давялося весці разам Першы Сход беларусаў блізкага замежжа, а мне, слухаючы выступленні землякоў з гарачых кропак былога Саюза, узгадваліся «Сібірскія абразкі» яго дзядзькі.

Прарокі і натоўп. Успомнім у Гарэцкага: «Цяпер у майго народа крызіс: старыя багі струпехлі, а новых... новыя мала ведамы» («Антон»); «Каб нам, ведаеш, свой беларускі прарок, каторы б прамыў нам вочы» («У чым яго крыўда?»). Актуальна зараз? Яшчэ як. Вынішчаная ў 30-я гады беларуская інтэлігенцыя зноў паўстала, як Фенікс з попелу. Прыйшлі ўнукі і праўнукі. І зусім не трэба Дыягенавага ліхтара, каб убачыць — ёсць у нас і прарокі, і героі. І будзе іх больш і больш.

Пакрывіў бы я душой, калі б не сказаў пра тое, што не магу прыняць у Максіма Гарэцкага — кампраміс з нацыянал-камунізмам. Як спалучыць аблічэнне «белорусских проходимцев», ухваленне «коммунизма и единения с коммунистами Советской России» (артыкул «Няхай жыве камуністычная Беларусь [!]») і амаль адначасова напісанае апавяданне «Усебеларускі з'езд 1917-га года», у якім просты селянін Кузьма асуджае гвалтоўны разгон п'янымі бальшавікамі Усебеларускага Кангрэса: «...Біў цябе (Беларусь. — **В. Г.**) цар з панамі, а цяпер простыя прыблуды за тое ж узяліся»? Якой крывёй дасягаўся кампраміс?

Безумоўна, напачатку Гарэцкі шчыра верыў у ідэалы сацыялістычнай рэвалюцыі, чаму і супрацоўнічаў з Кнорыным ды Міцкявічусам-Капсукасам, чаму і пісаў у аглядзе «Беларуская літаратура пасля «Нашай Нівы», што «толькі пралетарская творчасць ёсць цяпер рэвалюцыйным і наогул правадзейным фактарам у жыцці Беларусі».

А перазоў з сучаснасцю, скажаце, дзе? Ды самы непасрэдны. Тады — крах беларусізацыі, нацыянальнай ідэі ўвогуле. Крах, абумоўлены згодніцтвам і здрадніцтвам нацыянал-камуністаў. І сёння мы бачым, як найбольш дальнабачныя ўрадоўцы з ліку былой партнаменклатуры даволі ўдала падключаюцца да працэсу Адраджэння: і мову, аказваецца, добра ведаюць, і айчыннай гісторыі не цураюцца, праўда, з пэўнымі купюрамі. Здаецца — згода, крок наперад. Але трагедыя жыцця Максіма Гарэцкага папярэджвае — губляць пільнасці нельга, шлях згодніцтва з нацыянал-камуністамі (яны, адчуваецца, вельмі хутка афармляюцца як цэлая плынь) памылковы, тупіковы і шкодны. Прынамсі, не апынуцца б у становішчы сучасніка Гарэцкага Міхася Зарэцкага, калі адзін з герояў рамана «Крывічы» «шукаў Беларусь, а знайшоў бе-ла-ру-сі-за-цыю».

**Валеры ГЕРАСІМАЎ,** **бібліёграф.**

# ЁН З РОДУ ГАРЭЦКІХ...

1. Цяпер, канечне, цяжка дакладна прыгадаць, калі і пры якіх абставінах я ўпершыню пазнаёміўся з прозаю Максіма Гарэцкага. Магу з пэўнасцю сказаць адно: гэта адбылося не ў студэнцкай аўдыторыі. Хаця я і канчаў філфак універсітэта. На жаль, курс беларускай літаратуры ў той час (а гэта ж быў ужо пачатак 60-х гадоў) усё яшчэ абыходзіўся без такіх імён, як М. Гарэцкі, Б. Мікуліч, Л. Калюга, Я. Нёманскі і іншыя. Нават біяграфіі нашых класікаў Я. Купалы і Я. Коласа падаваліся спрошчана. Скажам, замоўчвалася спроба самазабойства Купалы, загадкавыя абставіны яго гібелі. А бясстрашнае пісьмо Коласа ў ЦК КПБ адносна лёсу роднай мовы, развіцця беларускай літаратуры з'явілася ў друку толькі ў апошні час.

Так што лёс Максіма Гарэцкага, можна сказаць, тыповы лёс тых, хто адважваўся ў тыя змрочныя сталінска-яжоўскія часы адкрыта заяўляць аб сваёй любві да збалелай, шматпакутнай Бацькаўшчыны, узвышаць голас у абарону яе багатай гісторыі, яе нацыянальных традыцый, яе самабытнай культуры.

Памятаю першае ўражанне ад «Віленскіх камунараў» — ашаломленасць. Якое смелае пранікненне ў глыбіні народнага жыцця, якая сіла грамадзянскага пачуцця, які магутны і непаўторны талент! Чаму ж мы пра гэтага пісьменніка нічога не ведалі раней? І цяжка сказаць, чаго было ў нашых душах больш — горычы ці гневу.

Прыкладна ў тыя ж гады, працуючы ў рэдакцыі газеты «Звязда», я пазнаёміўся з малодшым братам Максіма Гарэцкага — Гаўрылам Іванавічам, акадэмікам, дырэктарам навуковага інстытута. У свой час ён таксама быў рэпрэсіраваны, гвалтоўна, на доўгія гады адарваны ад роднай зямлі, любімай працы. Мяне здзіўляла, што чалавек, прайшоўшы ледзь не ўсе кругі зямнога пекла, нечалавечых выпрабаванняў, захаваў у сабе гэткую сілу духа, чыстае, аптымістычнае ўспрыманне жыцця і такую захопленасць, самаадданасць у рабоце.

— А што вы хочаце, — звычайна адказваў Гаўрыла Іванавіч, стрымана ўсміхаючыся. — Мне ж трэба частку жыцця пражыць і за брата, дарабіць тое, чаго не паспеў ён.

Напэўна, вось гэтая надзвычайная сумленнасць перад самім сабою і перад людзьмі, высокая грамадзянская адказнасць і гарачае жаданне як мага больш зрабіць для нацыянальнага адраджэння былі проста ў генах роду Гарэцкіх. Колькі гадоў пазней, калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтаваўся да друку чатырохтомны Збор твораў Максіма Гарэцкага, увесь нялёгкі клопат аб тым, каб як мага паўней і дакладней данесці да чытача яго багатую літаратурную спадчыну, добраахвотна ўзяла на сябе дачка пісьменніка Галіна Максімаўна, што спецыяльна дзеля гэтага прыязджала з Ленінграда і падоўгу жыла ў Мінску. Яна з надзвычайнай скрупулёзнасцю адносілася да рукапісаў бацькі, звяраючы кожнае слова, кожную коску. І якія ж былі яе душэўныя пакуты, боль і адчай, калі па міласці цэнзуры даводзілася з ужо набраных тэкстаў выкрасліць асобныя радкі, а то і цэлыя абзацы.

2. Прызнаюся чэсна: не ўсё ў творчасці Максіма Гарэцкага мяне аднолькава ўражвае і захапляе. І ў гэтым няма ніякага кашчунства. Нават самыя вялікія, бездакорныя творы мастацтва кожны чалавек можа ўспрымаць па-свойму. Таму хай занадта строга не судзяць мяне чытачы, калі я скажу, што, напрыклад, «Камароўскую хроніку» я чытаў без асаблівай захопленасці. Перанаселенасць персанажамі, мноства залішне падрабязных бытавых апісанняў, адсутнасць якога-небудзь сюжэта, дынамізму — усё гэта, як мне здаецца, робіць хроніку дастаткова грувасткай.

Больш блізкія мне іншыя рэчы М. Гарэцкага. І перш за ўсё «Дзве душы». Перад тым, як адказваць на пытанні анкеты, я зноўку перачытаў аповесць і яшчэ раз парадаваўся: якая глыбокая, таленавітая і па-мастацку дасканалая рэч! А сёння, калі мы перажываем немалыя сацыяльна-палітычныя патрасенні, яна яшчэ і надзвычай актуальная. Многае з таго, аб чым ідзе гаворка ў аповесці, сугучна і нашым дням. Мы зноў пастаўлены часам перад складанымі і балючымі пытаннямі быцця: кім быць, куды ісці? Пакутлівыя разважанні Абдзіраловіча і іншых герояў аповесці аб суадносінах агульначалавечых каштоўнасцей і класавых, іх уяўленні аб справядлівасці і дабрыні, іх узнёслыя мары аб адраджэнні беларускай дзяржаўнасці ў значнай ступені дапамагаюць нам арыентавацца, рабіць правільны выбар у сённяшніх няпростых варунках рэчаіснасці.

**Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.**

# НА ЎЗРОЎНІ КАНТЭКСТУ

Калі гэта было? Напрыканцы сямідзесятых; аднак час і ўзрост не маюць такога значэння, як стан асобы. Якраз тады з'явілася першае пачуццё няўтульнасці ад «перакуленага» існавання—з чужой моваю ў вуснах, ні то выгнаннікам, ні то рэзервантам у сябе на Бацькаўшчыне. Гэты глыбокі, яшчэ не да канца ўсвядомлены верад не маглі супакоіць бутафорскія атрыбуты нацыянальнага жыцця—лапці, бульба й саламяны капялюш, бліскучыя ўзнагароды на грудзях Беларусі ардэнаноснай, бела-чырвоная уніформа фальклорных гуртоў і зялёна-чырвоны сцяг...

Кажуць: і тут з'явіўся Караткевіч... Так, Караткевіч. Ён давёў, што беларусы пражылі такую гісторыю, якую не сорамна ўзяць з сабою на шляху ў сусветную супольнасць. Але няможна рушыць да універсуму з адной гісторыяй у кайстры, пакінуўшы дома, «для хатняга ўжытку», літаратуру. Што ж датычыць да літаратурнага сусвету, дык у ім уладарыць спадар Кантэкст, непранікальны да ўсяго другаснага, правінцыйнага. Тут міжволі робіш падлік: ці маем класікаў, якія тварылі на ўзроўні Кантэксту?

І тут з'яўляецца Гарэцкі.

Спрабую рэстаўраваць пачуцці, з якімі ўпершыню чытаўся Гарэцкі. Было адчуванне, што гэтага аўтара не трэба ні ўпісваць, ні ставіць у Кантэкст. Што ён размаўляе з табой адтуль—з універсуму. Гутарыць недзе з гэткай самай нязмушанасцю, з якой ягоныя мужыкі й панічы гамоняць пра Бога і жыццё.

Аўтар — сялянскі сын—настолькі асвойтаўся там, у Кантэксце, што да адвечных пытанняў пра «патаёмнае», «нешта нейкае», «што яно?», «што й к чаму?» падыходзіць з асаблівай нейкай учэпістасцю, нават з панібрацтвам. З аднаго боку—інтэлігенцкія хістанні й сумліў, з іншага—сялянская дыхтоўнасць і ўдаваная прастакаватасць.

Пасярэдзіне—адна з галоўных каардынатаў творчасці Гарэцкага. Яна пачынаецца са звыклага пытання пра інтэлігента і народ. Доўжыцца вобразамі Кліма Шамоўскага, Архіпа Лінкевіча, Лявона Задумы, Ігната Абдзіраловіча. А потым, на стыку літаратуры і жыцця, лінія ломіцца, але не гіне, цягнецца да сённяшняга дня.

Інтэлігенты Гарэцкага пакутуюць ад немажлівасці вярнуцца ў стан «мужыцкасці», ад крыўды невядома на каго за тое, што ў новым стане іх, інтэлігентаў у першым пакаленні, сяляне не разумеюць, не ўспрымаюць. І што няможна прымусіць мужыка глядзець на свет іхнімі вачмі, бачыць бруд і разлад вакол сябе. Крыўда зменіцца меланхоліяй адраджэнца-скептыка Лявона Задумы, а далей будуць паняверка і бясконцы сумліў мужыка-паніча Ігната Абдзіраловіча з «Дзвюх душаў».

Самотнай адысеяй Абдзіраловіча завяршаецца эпоха інтэлігенцкіх «хаджэнняў» у народ; пачынаецца паход ачмуранага, узначаленага саманадзейнымі правадырамі натоўпу—на асветнікаў, творцаў, навукоўцаў, проста адукаваных і разумных людзей, дзеля вынішчэння апошніх.

Максіма Гарэцкага, светлага, чыстага розумам і душой інтэлігента, сялянскага сына, судзілі і катавалі цёмныя, жудасна непісьменныя людзі, «прадстаўнікі народа». Гэткім трагічна-парадаксальным чынам падсумоўваецца досвед «хаджэнняў», «служэння», «выканання абавязкаў» і да іх падобных стасункаў паміж інтэлігентам і грамадою. Гэты досвед, літаратурны і жыццёвы, падводзіць да пошуку іншых стасункаў, споўненых даверам, павагай, паразуменнем—тым, без чаго нудзіліся і Задума ў Гарэцкага, і купалаўскі Прарок, і коласаўскі Лабановіч. Можа быць, гэтае паразуменне выспее на глебе здаровага сэнсу, мэтазгоднасці, цвярозай развагі, як сёй-той мяркуе. Прынамсі, ні ў літаратуры, ні ў жыцці гэты шлях яшчэ не дасягнуў тае рысы, за якой пачынаецца расчараванне і роспач.

**Пятро ВАСЮЧЭНКА.**

# ПА ПРЫСТУПКАХ «ЧОРНАЙ ЛЕСВІЦЫ»

## Нататкі з крытычнага дзённіка

Купіў новы зборнік вершаў Васіля Зуёнка — «Чорная лесвіца».

Першае ўражанне: горкае, з болем выказванне, адкрытым тэкстам. Відаць, той выпадак, калі аўтарскі клопат пра ювелірнасць формы як бы не да месца, прынамсі, адыходзіць некуды на другі план. І — аніякай боязі магчымых дакораў за гэта. Толькі жаданне выказацца як хочацца, як чуецца (ные) знутры.

З выдавецкай анатацыі да зборніка (рэдактар Л. Дранько-Майсюк): «Чорная рэчка Пушкіна — чорная лесвіца Купалы — чорныя прыступкі лёсу... Новая кніга Васіля Зуёнка прасякнута трагедыйным пафасам, паслячарнобыльскай трывогаю». Усё сапраўды так. Можна і карацей: невялічкая кніжка вялікай страты. Найперш — сыноўняй. І менавіта з гэтым — і праз гэта — страты наогул чалавечай, жыццёвай.

**Двор без мамы —**
**народ без мовы...**

Страта ўсвядомлена як уласная, асабістая асірацеласць і як пустэча зніклых ілюзій і аптымізму, што больш не дапамагае, нібы састарэлыя лекі.

Страта ўсвядомлена, але яшчэ не перажыта. Тэрмін перажывання — усё жыццё. Пра гэта — у паэме «Падарожжа вакол двара». Пра гэта — і ў вершах. Там незваротнае расстанне з маці доўжыцца: «Апанулі ў апошняе маму...» — «Я думаў: жыць далей не стане сілы...» І да гэтай, сыноўняй страты разыходзяцца ў кнізе кругі іншых страт — шырэй і далей, ва ўсе бакі.

Забытае людзьмі пачуццё радзімы: «Ці бог паслаў такіх сыноў, што адракаюцца ад маці...»

І нечакана-непапраўнае адасабленне, адчужэнне, здавалася б, з'ядналых лёсаў: «Вось і спаткаліся — як размінуліся, і не пазналі адно аднаго...»

Гібенне некалі шчодрай, але ўжо спустошанай зямлі, да якой больш не цягнуцца руплівыя рукі майстроў: «Вісіць над глінішчам маўчання страшны суд...»

І трагічнае адрачэнне ад жыцця блізкай па творчасці душы — верш «Жэня Янішчыц. Апошні палёт».

Нарэшце роспачнае пачуццё заўсёднай ужо духоўнай збядненасці ад заўчаснай пагібелі геніяў і адчуванне нейкага падабенства ў наканаваным ім у розныя часы: «То рэха Купалы, што з Чорнае рэчкі сюды ад Пушкіна прыблукала...»

●

**Падумалася: неабходная ў пэўным сэнсе свабода мастака ад самога мастацтва павінна вынікаць, во як у гэтым выпадку адно з несвабоды ад сумлення. Толькі тады — апраўданне і плённасць такой свабоды, а не ва ўсялякіх там «сацыяльных заказах».**

**Бо што такое несвабода ад сумлення як не адвечная, пакутніцкая і выратавальная патрэбнасць спачування і суда над сабою? А гэта ўжо, калі не збаяцца гучных слоў, прага ідэалу, а не прага ідэй. Тут канчаюцца ідэалогіі і пачынаецца рэлігія — тое выратаванне душы, без якога ніколі так і не наступіць ніякае «грамадскае выратаванне».**

**Адна з прыступак «Чорнай лесвіцы», што найбольш уражваюць,— радкі з галоўнай у зборніку тэмы Маці:**

**І цяпер я памерці вольны,**
**Ты не ўбачыш сына ў труне.**

**З адчуваннем такой горкай, як бы ўжо апошняй «вольнасці» сказана ў кнізе і пра ўсё астатняе, што звыкла завём мы словам сучаснасць. Сказана голасам палеміста і публіцыста. Грамадзянская паэзія? Але ж, у рэшце рэшт, заўсёды адчуваеш — і беспамылкова — адкуль ідзе ў паэзіі першапачатковы імпульс грамадзянскасці: толькі з боку ўсім бачнага, цесна абступаючага нас соцыуму, ці ад нечага непараўнальна большага, а галоўнае — высокага.**

●

Наконт высокага ў літаратурным сэнсе.

Выйшаў нядаўна з падзямелля метро на станцыі «Няміга». Шэрае святло кароткага дня. Суцэльны цяжкі гул і грукат транспарту. Людзі подбегам кідаюцца да пераходу. Адзін чалавек стаіць і глядзіць у неба.

Там з тужліва-маркотнай, адвечнай цярплівай старannасцю ладзяць свой вугал гусі. Плывуць няспешна, запаволена і не надта ўжо высока — як і стагоддзі назад плылі тут, над берагамі Нямігі, але зараз ужо не ўчуеш іхніх развітальных крыкаў з-за гэтага няспыннага грукацення на зямлі.

І чалавек пытаецца:

— А чаму яны ляцяць на захад, а не туды, на поўдзень?

Прыйшлося заспакоіць чалавека, што гусі добра ведаюць свой шлях. І што трымаюць яны курс на паўднёва-заходнія краіны Еўропы, ляцяць да Пірэнеяў, Іспаніі і далей, да паўночнага ўзбярэжжа Афрыкі.

Самы кароткі шлях — не заўсёды шлях напрасткі.

Мусіць, так — і ў жыцці, і ў мастацтве.

●

**Не думаю, каб гэтая кніжка Зуёнка сталася для яго, як любілі казаць, «этапнай». Не думаю, што ў яго не было, а галоўнае, не будзе наперадзе вершаў такіх жа моцных, як і ў «Чорнай лесвіцы» — і нават лепшых за іх. Тут — іншае. Тут менавіта кніга, якая не магла не напісацца, бо не можа не даць уведаць аб сабе тое з перажытага, што просіцца быць здзейсненым у слове.**

**Калі перад намі сапраўды новы зборнік паэзіі — значыцца, гэта новы збор саспелых у сваю пару імгненняў душы, журботных і шчаслівых. У такім сэнсе кожны зборнік вершаў у пэўнай ступені заўсёды хутчэй «вянок», чым «этап». Ды й ці не досыць нам ужо наогул усялякіх «этапов большого пути»? У літаратуры іх, на жаль, было куды больш, чым у жыцці.**

**А што да вершаў Зуёнка, якія з'явіліся ў друку перад «Чорнай лесвіцай», але, відаць, былі напісаны пасля яе і не паспелі ўвайсці ў кнігу, дык і тут доўжыцца Матчына тэма. І тут ёсць радкі, што праціnаюць вострай, шчымлівай шчырасцю пачуцця і філасофскі засяроджанай тужлівай думкай. Напрыклад, вось гэта, з маленькага цыкла «Рыфмуючы сонца»:**

**Хлапчук маленькі нацянькі**
**Бяжыць праз поплаў ад ранi**
**І маму радасна гукае.**
**Ці гэта ты?**
**Ці гэта я?**
**Ці гэта смерць бяжыць мая?..**
**Хоць знаю ўсё, але пытаю...**

●

Упэўнены: нават калі б не гэта цяжкае развітанне з маці ў жыцці, усё роўна на ёй сышліся б галоўныя кругі зместу ў новай кнізе Зуёнка. Усё роўна на гэтай бы «кропцы» сфакусаваліся б асноўныя паэтычныя лініі зборніка. Бо вельмі ўжо вострa і балюча адчувае аўтар гнятлівы ціск на чалавека і святое для жыцця ледзь не з усіх бакоў жорсткай паўсядзённасці. А пры такім адчуванні ўнутраны зрок яго міжволі адшуквае перш за ўсё самае адкрытае для небяспекі, безабароннае сярод бліжэйшага, роднага, самае слабае ці стомленае, каб неяк засланіць ад бяды словам, быццам трапяткі агеньчык свечкі — рукою.

Такім дарагім і безабаронным заўсёды былі і будуць дзеці або маці.

У «Чорнай лесвіцы» — маці. Доўгі час наша мастацтва і літаратура абараняплі ідэю. Ці чалавека, адданага ідэі, а не сваім родным. Услаўлялі партызанскага камандзіра, які не выйшаў да ворагаў, зрабіўшых заложнікамі яго дзяцей,— замест таго, каб хаця памаўчаць перад страшэнным няшчасцем асірацелага бацькі — заложніка ідэі...

На прыступках «Чорнай лесвіцы» бачна, якая хуткая, дакладная і з'едлівая рэакцыя ў аўтара на любыя прыкметы здрады жывому жыццю — ён гэтую здраду называе «ідэялажніцтвам». І разумее, што ўлады, якія заўсёды клянуцца ў вернасці народу, могуць выстаўляць перад сабою то як шчыт, а то як меч, «ідэю народа» і ва ўласнай — уладнай — фармулёўцы.

Але сапраўдную сутнасць ідэі ўсякага народа здольны выказаць толькі яго Паэт. І гора народу, чыю ідэю фармулюе ўлада. Бо тады яна ўжо і змагаецца за яе — супраць самога народа.

●

**...Успомнілася, як тады, узяўшы кніжку Зуёнка, стаяў у кніжнай краме на рагу праспекта, былога Ленінскага, а зараз ужо Скарыны, і па-ранейшаму Камсамольскай вуліцы,— і штосьці прагладаў яшчэ. Убачыў «Выбранае» Стральцова. На вокладцы, чарнілам, як наўздагон усім аўтарскім метафарам — яшчэ адна, няўмольна-дакладная метафара нашай культуры ў нашым часе: «1 р. 25 к.» — замест былой, удвая большай цаны,— а побач нейкія незлічоныя «Анжелики» за паўсотні кожная. Звыкла, як дома, разгарнуў знаёмы том, патрапіўшы на эсэ «Ад маладзіка да поўні»:**

**«Калі-небудзь хто-небудзь напіша пра пару, калі ў нашым сталічным універсітэце на адным курсе ці на паралельным (філолагі-журналісты) вучыліся Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Таццяна Арлова, Мікола Гіль...» Далей ішло маё імя. У думках дадаў: і Алесь Дзятлаў, Герман Кірылаў, Анатоль Сілянкоў...**

**Тая наша пара універсітантаў-першакурснікаў пачыналася з восені 1954 года. Ужо паўтара года не было ў жывых таго, пра каго потым у адным апавяданні Гіля жвавенькі вясковы чалавеча скажа: «Вось і «бацька» ўжо памёр, а я ўсё ціўкаю!» Але ў Мінску яшчэ стаяў на плошчы аграмадны гранітны манумент «бацькі», які ўзрываць давялося не адну ноч. І яшчэ тупалі, здаецца, вартавыя ў доўгіх белых кажухах, са штыкамі на вінтоўках перад тым палацам з калонамі ў самым цэнтры горада, пра які і зараз яшчэ прыезджыя думаюць: «Тэатр»,— і на фасадзе якога, як і цяпер, не было тады ніякай шыльды... А сёлета над адным сваім вершам Зуёнак паставіў такі падкрэслена празаічны і тапаграфічна-падрабязны эпіграф:**

**«З прычыны знікнення стрэлак з гадзінніка ў Мінску над гастраномам насупраць КДБ».**

**Я выйшаў з кніжнай крамы — гадзіннік гэты быў добра відаць цераз скрыжаванне. Рамонт яго скончыўся, на цыферблаце ізноў тырчэлі стрэлкі. Гадзіннік зноў ішоў. Будыніна насупраць стаяла на сваім месцы.**

●

Злавесны вобраз насілля над жывым жыццём, чалавечнасцю, творчасцю персаніфікуе ў Зуёнка ў сённяшніх, імгненна пазнавальных рэаліях. Пры гэтым ён добра чуе слова і не ўпусціць магчымасці скарыстацца ім у гульні нечаканых гукавых асацыяцый, хай нават і знешніх, але ўсё роўна надаючых радкам энергію, дынамізм («маркізы-марксізм», «цэнзура — цэзура», «трызніць - транзістар»). Ягоныя прадметныя і сэнсавыя дэталі нярэдка простыя, без вытанчанасці, па-сялянску грубаватыя — і ад таго крэпкія, а калі трэба — рэзкія, безаглядна-смелыя. Яны выраблены і пушчаны ў справу рукою паэта, які працуе па-мужчынску, у якога не займае дух ад боязі магчымай няўдачы ў якой-небудзь страфе, бо заўсёды застаецца ўпэўненасць: удача таленту — у рабоце, а да работы яму не прывыкаць.

Гэта паэт з распрацаваным, глыбокім дыханнем, з пастаўленым — зноў жа, дзякуючы сваёй доўгай працы — голасам.

Я чую, як ён чытае свае вершы па радыё.

Агульны тон і інтанацыя, тэмп і рытміка, здаецца, кажуць пра іх змест, галоўную думку, настрой не менш, чым самі словы, іхні канкрэтны сэнс. Горкае, поўнае крыўды пачуццё развітання з тым у жыцці, што знікае, нягледзячы на ўсе нашы намаганні выратаваць гэта, нашы заклікі, «знакі бяды» і «знакі аховы» — вось дамінанта і асноўная музыкальная тэма гэтай паэзіі.

Між іншым, такое чуваць і ў іншых нашых паэтаў пры чытанні імі ўслых сваіх вершаў, прасякнутых трывогаю і непакоем — у Сіпакова і Паўлава, у Някляева, Законнікава, Галубовіча...

Горыч і крыўда даверліва-народнага пачуцця, падманутага і абражанага на «чорнай лесвіцы» гістарычнага лёсу чуецца ў іх галасах. І гэта прымушае думаць ужо не столькі пра надакучлівае азначэнне «грамадзянскай» паэзіі, колькі пра пэўныя рысы беларускай ментальнасці. І гэтая трагічная мелодыя, зразумела ж, удзельнічае сёння ў «пошуках страчанага вобраза» (В. Акудовіч) — духоўнага вобліку нацыі.

Быў у сярэднявеччы нямецкі філосаф-містык Іёган Экхарт. Ён казаў прыкладна так: у слыху я — пакутлівы, тады як у зроку — дзейсны. Бо слухаючы нешта ці некага мы з'яўляемся аб'ектам, засяроджаны на скіраваным да нас і зазнаем тое ці іншае пачуццё намнога мацней, чымсьці ў знешніх дзеяннях. Прынамсі, па голасу чалавека, па тону яго выказвання можна зразумець не менш, калі не больш, чым з самых слоў.

●

**Што цікава — у «Чорнай лесвіцы», дзе зашмат гора і выкрывання зла, усё ж расце, не забіваецца палыном і любоў да адвечна новай змены прыроды («Непазбежнасць». «Абуджэнне»), да пары чалавечай маладосці («Ля дзвярэй незбудаванай хаты»), да творчасці («Спаленне») — і да жыцця ў самых простых яго праявах («Аптымістычная песенька»).**

**Гэта выглядае даволі паказальным. Бо гадамі чытаеш заўзятых выкрывальнікаў і знішчальнікаў зла палітычнага і зла недасканалай літаратуры (асабліва ў крытыцы — во дзе ўжо шчыруюць некаторыя). І гадамі ў гэтых адмаўляльнікаў не знаходзіш імені таго, што ім хоць крыху даспадобы ў жыцці або ў той жа літаратуры.**

**Пачынаеш моцна падазраваць, што гэтага ў іх няма ўвогуле. Тут няйначай як збольшага прыхаваны комплекс нейкай духоўнай нястачы.**

**Ніколі не забуду тое месца з апавядання Сэлінджэра «Прысвячаецца Эсме», дзе кантужаны, атручаны вайною амерыканскі сяржант пасля перамогі сутаргава выводзіць на кніжнай вокладцы словы з «Братоў Карамазавых»: «Айцы і настаўнікі, мыслю: што ёсць пекла? Разважаю так: пекла ёсць пакутніцтва ад немагчымасці любіць».**

**Бараніць жыццё (і ідэю жыцця) зручней чалавеку свабоднаму. Пушкін казаў, што без свабод палітычных «жыць вельмі можна», а без свабоды ўнутранай — нельга. З гэтым не ўсе пагодзяцца, але асабістая свабода — не ў адным адмаўленні, а ў сцвярджэнні. Першае без другога пагражае самаразбурэннем. І калі чытаеш у «Чорнай лесвіцы»:**

**Паэт заўсёды ў апазіцыі:**
**Да канстытуцыі, петыцыі...**

**— дык тут усё правільна. Але калі ўжо сказана «заўсёды», то не пашкодзіла б дадаць: і да самой апазіцыі таксама.**

●

Энергія паэтычнага адмаўлення ў Зуёнка — і энергія жыццяздольнасці ягонай паэзіі, ягонага аўтарскага «я».

Ёсць і тое, і другое. Ёсць патрэбная, неабходная для творчага чалавека раўнавага паміж гэтым. (А, напрыклад, Стральцоў, адчуўшы, што пасля «здзейсненага ў пісаніне» самага любага ў жыцці, дзіцячага і юнацкага, цяпер настала жыццё больш жорсткае, рацыянальнае, хваравіта - рэфлектоўнае, адчуў, што яно больш не паддаецца любові, не здолеў ахапіць яго сваім пачуццем так, каб пісаць пра яго і далей — і для гэтага тонкага, арганічнага чалавека і пісьменніка наступіў канец творчасці і жыцця).

У «Чорнай лесвіцы» можна паспрабаваць хоць бы і пункцірна, але пазначыць, акрэсліць тое эмацыянальнае гучанне вершаваных тэкстаў, што нібы само складаецца з інтанацыйна-выразных радкоў, рытмічна-вобразных элементаў, западаючых у памяць пры чытанні як апорныя ў нейкай ступені, незалежна ад кантэксту. У кожнага яны будуць свае; для мяне — вось такія, напрыклад: «Вертыкальныя рэкі святла...» — «Нязвыклае думкі грахоўнасць...» — «На беразе лютай свабоды...» — «Гэты час, гэты смог, гэты бог...» — «Праваднікі з пергаментнымі тварамі...»

Адзін верш пачынаецца з радка:

**Якім ён будзе, новы наш каўчэг?..**

Можна спадзявацца. Можна сумаваць. Як кажуць, магчымы варыянты. Аднаго не папраўіць:

**Гарыць агонь, а музыка знікае.**

**Аляксандр СТАНЮТА**

Перачакаўшы свету канец,
На голаву Каіну ўскласці вянец!

Бо пасля ядзернае вайны
Выжыць, выжыць павінны яны,
Таму што на ўвесь ім адпушчаны час
Разлічаны на паўвека запас —
І па памеру, і па вазе,
Дакладна выверана НЗ!

І не прыблізна, не на авось
Напагатове ўсё,
Як ёсць:
Камунікацыя,
Каналізацыя,
Асенізацыя,
Сваё метро,
Палітбюро,
Свой новы ЦК
І новая сакратарова рука.

А вы, вучоная шація-брацыя,
Не плачце, што цяжка, што важка,
Мы ж вас не ў каталажку,
А ў акадэмічную шарашку,
Кожнаму персанальна — парашку.

На повен рот — хлеба,
Да хлеба — масла,
Каб ваша натхненне не згасла
Дачасна,
Даём дабро —
Новае расчапляйце ядро!

## З ПАСЯДЖЭННЯ ПАДЗЕМНАГА ПАЛІТБЮРО

ГЕНЕРАЛЬНЫ

На парадку дня ў нас пытанне першае.
З яго давайце і пачынаць:
Як нам самае найдаражэйшае
Пад зямлёю надзейна ўратаваць.
Ці ёсць якія рэкамендацыі геолагаў!

ХОР

А навошта геолагаў,
Ёсць жа план ідэолагаў!

ГЕНЕРАЛЬНЫ

Ну тады табе, таварыш Сусла,
Слова, ты ў нас самы маладзён,
На губах і малако яшчэ не згусла...

ХОР

Няхай будзе так, як скажа ён!

СУСЛА

Толькі папрасіў бы без іроніі,
Я сваёй удзячны ролі
І намёк тут недарэчы ваш.

Каіністу кожнаму па праву —
Слава,
У якога ўжо адвечны стаж.

А што я не маладзён, не з ранніх,
Дык і не разлічваю
На генеральных.

ХОР

Не дадзім у крыўду Суслу,
Кожны смокча сваю суслу!

ГЕНЕРАЛЬНЫ

Што ж, смакчыце,
Толькі аб галоўным не маўчыце.
Кожны мне пярэчыць вольны,
Хто старэй, мудрэй і болей кемны,

Ды не забывайце,
Я ў вас не падпольны,
А глыбей капайце,
Я — падземны.

СУСЛА

Я адразу далажу, што мне карцела:
Першым чынам—Ленінава цела.
Хай яно навечна ацалее
У падземным маўзалеі,
Як бяссмерце Ільічова
І як помнік Ільічу...

ХОР

Пры адпаведных бірках
Варт зберагчы ў прабірках
Насенне Гарбачова
І Брэжнева мачу.

ГЕНЕРАЛЬНЫ

Таварышы,
Строга прытрымлівайцеся ліміту —
Адбірайце эліту,
Толькі эліту!

## ПАСЛАНЦУ З КОСМАСУ

Таямнічая асоба,
Грозны вораг мой ці друг,
Мой двайнік ці мудры робат,
Ты — матэрыя ці дух!

Хоць адзін на пробу зараз
Дай мне спадчынны твой ген.
Хто ты: з колбы новы Фауст,
З даўняй бочкі — Дыяген,

А то — помснік за Ікара,
Што на сонцы спапялеў,
За яго прыйшоўшы з карай,
Каб на мне спагнаць свой гнеў!

Свет трымае ў страху атам,
Грозіць выбухам нейтрон.
Быў руплівым я аратым,
Ведаў ласку баразён,

Не на ўцеху фарысеям
Зерне кідаў у раллю.
Для якога ж перасеву
Ты абраў маю зямлю!

Рыцар у крылатых латах,
Занябесны пасланец,
Дзе дабра твайго пачатак
І дзе зла твайго канец,

Дзе пачатак той дарогі,
След маіх бадзяжных ног,
Калі сам зусім убогі,
Вымавіў я слова: Бог,

Потым, вылепіўшы з гліны,
Біў яму паклоны лбом,
Стаўшы ад тае хвіліны
Таямнічасці рабом.

Выразаў, вычэсваў з дрэва
І з камення ўпарта сек,
Хоць крычаў, бывала, ў гневе:
— Ідал ты, не чалавек!

Але ў самым ідэале,
Што сабе ні гавары,
Ты мне бачыўся ў метале
Лепшым другам з той пары.

Вось ён, мой жалезны ідал,
Запаветны ідэал!
Ў акіян сусветны выйду,
Ваззьму новы перавал.

Дапаможа ён прабіцца
Навылёт зямлі, наскрозь...
Адгукніся, тайны рыцар,
Страшны і жаданы госць!

Я цябе па ўсім сусвеце
У сузор'ях лаўлю.
У якой, скажы, ракеце
Спусцішся ты на зямлю!

Мабыць, ты адзін па мерцы,
Па размаху роўны мне,
Аж знянацку ты — ў талерцы,
Як у казцы, як у сне!

Не зусім надзейны сродак
Для касмічных, зорных трас,
Але ж, кажуць, так твой продак
Прылятаў калісь да нас,

Нават не ў талерцы — ў сподку!
Ёсць і сведкі тых часоў,
Хто з тваім таемным продкам
Абмяняўся парай слоў.

Хтосьці моршчыўся скептычна,
Хтосьці госцю нагрубіў.
На сеансе спірытычным
Я, на жаль, тады не быў.

Калі ж ты, мой першы стрэчны,
Не зламыснік, не хітрэц,
На далёкай сцежцы млечнай
Сам гатоў цябе сустрэць.

Толькі загадзя засведчу:
Строгі я завёў улік —
З хітрым намыслам разведчык
Будзе першы мой язык!

Там, дзе завязь таямніцы —
Галавой гатоў у вір,
Хоць да Зеўса ў калясніцу,
Хоць на Балтазараў пір.

І няхай сабе ўжо зараз
Вораг на маёй сцяне
Піша: «мене, тэкел, фарэс...»*
Страхі ўсе не для мяне!

Кожны доказ у зародку
Мне заўжды загадкай быў
Ні адной яшчэ на сподку
Я адгадкі не здабыў.

Мне ніхто яшчэ ў талерцы
Лёгкіх ісцін не паднёс.
Толькі розуму і сэрцу
Давяраю я свой лёс.

І пакуль сусвет спрадвечны,
Вечны я спаборнік твой
У бясконцай нашай спрэчцы
Паміж небам і зямлёй.

1992

---

*) *«Падлічана, узважана, падзелена...»* Таямнічыя словы пагрозы халдзейскаму цару Балтазару, якія прадказвалі яму пагібель (Біблія, кн. прарока Данііла).



Яраслаў ПАРХУТА

# КАРОТКІЯ НАВЕЛЫ

## Плужок

Натрапіў на яго не ў звыклым для гэтай пары месцы: не ў падпавеці, не пры сцяне хлеўчука, нават не на панадворку, а па той бок плота пакінутай сялібкі.

Плужок стаяў у баразне. Побач, у траве, вужамі звіваліся пачарнелыя вераўчатыя пастронкі, валялася ядлоўцавае пужальна, адным канцом тапырыўся скасабочаны ворчык. Уражанне было такое, нібы толькі-толькі выпраглі коніка — звадзіць да Прыпяці на вадапой.

Але ў заржавелы адвал ужо не пазірала сонца. І з ручак плужка даўно выпетрылася цяпло далоняў ратая. І баразну паспела загнаць пырнікам. І ні конскага следу вакол, ні чалавечага. Адзін вецер-скавыш не пераставаў перабіраць на колішніх сотках спружыністыя пруты чарнабыльніку.

— Божухна, — падумалася, — а дзе ж будзе гаспадар сялібкі? Куды падаўся ў бежанцы? Які лёс абняў яго там? Дзялуе на новым месцы ці працы шукае? І як здаровіцца яму?

З канька хлеўчука, звесіўшы глюгу, панура пазіраў на мяне чорны воран.

## Даўняе

Сядзеў на палянцы, пад бярэзінкай, і пазіраў, як бацька ўвіхаецца з касою. Часам ён спыняўся, даставаў з-за пояса мянташку, і тады чулася:

— Касі, каса, пакуль раса. Касі, каса, пакуль раса...

Вось бацька зусім блізка. Правую нагу трымае крыху наперадзе, нібы намацвае, куды лацвей паставіць яе, і ўсё шахае ды шахае касою. Нарэшце спыняецца, убівае касавінне ў дол, выцірае шапкаю твар, ідзе да мяне і сядае побач. Праз хвіліну твар яго робіцца радасным:

— Глядзі! Усё ж прыляцеў!

Прыпадымаюся і бачу: з краю палянкі бяжыць да нас вецер, узлятае на бярэзінку і там, у лістоце, шамаціць, шамаціць...

Раптам вецер саскочыў на дол і пабег на другі край палянкі. Бацька са шкадаваннем паглядзеў яму ўслед, падняўся і стомлена пайшоў у канец пракосаў. Зноў пачулася, як мянташка ўпрошвала касу:

— Касі, каса, пакуль раса. Касі, каса, пакуль раса...

## Скрыпачыха

Вочы ў яе — дзве лясныя азярыны. Сядзіць побач са мною і прагна пазірае на музыкаў. А яны —цымбаліст, гарманіст і скрыпач — ажно выпінаюцца адзін перад адным.

Яна кранае мяне за рукаў і паказвае на скрыпача:

— А мой, чуеш, як выцінае?!

Чамусьці ўздыхае і раздумліва доўжыць:

— Іншы на вяселлі ці запоінах чаркане і пайшоў елачкай. А мой— не. Мой прыгубіць для прыліку і — як прыліпне да скрыпкі. І так стараецца, так стараецца, ажно сэрцу млосна робіцца. Дзень-ноч, здаецца, чула б музыку тую, дзень-ноч...

І яе вочы зноў робяцца, як дзве лясныя азярыны.

## Аўтобус

Ён выскачыў з-за пагорка і, падняўшы клубы жоўтага пылу, тармазнуў. Рады, што мяне падбіраюць, я ўскочыў у салон і адразу адчуў: аўтобус вёз безліч пахаў! Зялёнага кропу, маладога часначку, спелых малінаў, суніцаў з чарніцамі, яблыкаў-папяровак, лісічак, баравічкоў-каласавічкоў ды яшчэ нечага дужа смачнага. Праз хвіліну здагадаўся: вясковая каўбаска дапаўняла гэты дзівосны букет пахаў.

...У салоне адны кабеты. Іхнія твары засяроджаныя, задумлівыя. Кожная трымае на каленях ці вядзерца, ці кошычак, ці звычайны клуначак. Даўмеўся: да сваіх едуць! У горад. І вязуць гасцінцы. Хто што можа.

Праз хвілін дзесяць аўтобус тармазнуў ля вясковай пачакалаўкі. Пакуль вадзіцель бегаў туды адзначацца, я праз шыбіну пазіраў на ластавак, што гушкаліся на правадах. Гэта былі маладыя ластаўкі. Яны сядзелі шчыльным радочкам. А старыя насілі ды насілі ім есці.

— Бытта дзеці нашыя! —пачулася за маімі плячыма. — Даўно апярыліся, а помачы бацькоўскай не цураюцца...

У гэтай рэпліцы крылася вялікая філасофія быцця.

## Стамлёнасць

Ад усяго стамляецца чалавек. Ад працы. Ад ляноты. Ад сытасці. Ад недаядання.

А бацька ў той дзень сказаў:

— Жыць стаміўся. Канца свайго чакаць надакучыла. Таму не завіце лекара. Памру ў сераду!

І праўда. Памёр у сераду, як і абяцаў, на світанку.

Калі праводзілі ў апошні шлях, я заўважыў: ягоны твар быў вельмі засяроджаны. Бытта перад сканаsuccessful ён раптам задумаўся: а ці гэтак прайшоў сваю дарогу, як належала?...

## Дома

Ён сядзіць воддаль, на лавачцы, пазірае, як скача мястэчковая моладзь, і моўчкі пакручвае ў руках кіёк з металічным набалдашнікам.

Адно дзеўчанё час ад часу вырываецца з круга, сядае поплеч і пазірае на яго ўлюбёнымі вачыма. І тады па твары хлопца прабягае вінаватая ўсмешка.

Калі дзеўчанё зноў губляецца ў маладой таўкатні танцаў, вочы хлопца робяцца строгімі. У тую хвіліну ён далёка адсюль. У тым страшным каменным мяшку. Пад нясцерпным сонцам. Сярод забітых сяброў. І бытта зноў чуе словы вайсковага хірурга: «Ты нарадзіўся ў сарочцы, сяржант!..»

А разгарацца як мае быць над мястэчкам зоркі, ён падымецца з лавачкі — правесці дадому сваю нарачоную.

І наструненую цішыню будзе парушаць толькі парыпванне пратэзаў.

## Нараджэнне дня

Глядзіш, як нараджаецца дзень, і радуешся: глыбейшым, сінейшым і з ружавінкаю пры самай зямлі робіцца неба. Маркотныя каржакаватыя яблыні набываюць барвовы колер. Барвова свецяць шыбіны акон...

А потым той барвовы колер паволі згіне, і ўсюды будзе бачыцца толькі адно яно — сонца. Праляціць на суседнюю лугавіну бусел, і тое сонца ажно ўспыхне на ягоных крылах...

А ты ідзеш да калодзежа, выкручваеш паўнюткае вядро вады і асцярожна, каб не расплюхаць, нясеш у хату. Пакуль робіш тыя дваццаць крокаў да парога, заўважаеш: не ваду нясеш у вядры —іскрыстае сонца.

І захочацца, каб гэтак вось пачаўся і заўтрашні дзень.

прыроды чалавека — «з квінтэсенцыяй праху» — мізэрнай, загубленай альбо неспазнанай прыродай уласных пачуццяў... Сад не ейны, мама па садзе ідзе не ейная, — маштабу бракуе, маштабу, — не адно Дашчатаўскаму тэатру. Бракуе і купалаўскаму. Прыкра, што менавіта Алы Кастровай, гераіні «за 40», так не стае на канкрэтнай сцэне ў гэтым канкрэтным спектаклі. Ды, мабыць, не таму, што рэжысёр Мікалай Пінігін памыліўся з прызначэннем на ролю... Перадусім — не таму.

Нешта адбылося з нашымі гераінямі за славутыя савецкія гады, усё адно як шматлікія ролі з савецкага ладу, люду, блуду й бруду заступілі сутнасць саміх выканаўцаў, — альбо падмянілі яе, альбо перамянілі... «Не гуляй!» — мусіла б стацца запаветам тэатральных кулуараў; «Тут іграюць!» — мусіла б накрэсліцца на патаптаных масніцах падмосткаў. Жудлівая тэатральная сітуацыя: на сваім узроўні (правінцыйным, малым, альбо якім там яшчэ) Ала Кастрова... аголена - пераканаўчая толькі сваёю заўсёднаю шараговасцю! Штампы мусяць сыпацца з Алы Кастровай, нягеглыя прыстасаванні мусяць пазначыць ейную неадпаведнасць новай ролі: лёс, сцепануўшыся, даў ёй магчымасць паразумецца з майстэрствам, драматург, не сумняваючыся, аддаў у ейныя рукі рэжысёравы паўнамоцтвы; ускласці крыж пакутніцтва ды адзіноты мастака выпадае Але, а яна... за мужыка свайго трымаецца, за Васю! І Т. Нікалаева, і Г. Талкачова да сутнасці, да празрыстасці, да вяршыні — трагікамічнасці — ролі яшчэ не дасягаюць; не дабіраюць, не дабіраюцца пакуль да Алы, што пачулася-такі валадаром сцэны ў драматурга, і якую рэжысёр хацеў быў падаць праз пакутніцкае неўсведамленне блізкасці шчасця, праз падсвядомую хаду да прафесіі, праз прыкрасць прыкрасцяў ды марнасць марнасцяў — папляжаную годнасць, прыніжаную школу, вымушанае рамесніцтва, бо мастацтву не было як разумецца з ёю... Сыграюць актрысы гэткае — і сам спектакль набудзе іншае мастацкае вымярэнне.

Трагедыю Алы пазначыць сяброўка Дзіяна (Т. Качаткова), што драпежнаю пампушкаю імкліва выкаціцца на сцэну ды прынясе зялёнку, каб звадыяшку Нону-Курыцу ёю абліць. Рассядзецца з Алаю на падлозе пад расповяд пра таго, каго Ала тут пад коўдраю ў Ноны заспела (былога мужа Дзіянінага), дапаможа збіраць Курыцыну валізу ды ў пранізліва-жаноцкім эпізодзе апранаху ейнаю памерае... Уздыхне каля свайго галоўнага, ля свайго мужыка цудоўнага й жаданага, — акцёрыць ёй не дадзена, не ейны гэта хлеб чорны ды дзень шчасны. Адно з найнебяспечных месцаў спектакля — дачыненні Дзіяны з мужчынам. Вось-вось, здаецца, надарыцца недарэчная пародыя на «савецкую жанчыну» ды ейны й наш асавечаны побыт: між тым трагедыю мусяць граць купалаўскія артысты... разам з дашчатаўскімі, — тую, для якой здрабнелі адны, змізарнелі другія, заплюгавелі трэція... Дакладна закцэнтаваныя ды бліскуча сыграныя эпізоды Т. Качатковай і В. Філатавым — ці не прыхаваная пародыя на акцёрскую імітацыю? Дзея, што так закруціў ды здырыжыраваў Распарадчык А. Падабеда, усё адно як перавawжваецца, перагінаецца праз рампу: Распарадчык трымае дзверы, Вася, чарговы персанаж, з'яўляецца ў самотным калідоры інтэрната, Нона ўсё топіцца, а рэжысёр Галакціёнаў вяртаецца пасля яе ратавання, — Распарадчык дае яму прыпаліць і той, седзячы на Распарадчыкавай будцы, самотна паліць спінаю да залы, паліць моўчкі, як праз хвіліну моўчкі вылівае ваду з рэквізітных гумовых ботаў, што выстаўляе Распарадчык з будкі...

Спіна рэжысёра не гуляе ў трагедыю. Яна на гэтую трагедыю выдае.

«Нона, мая Нона!» — тэатральна раўне тэатральны адміністратар з інтанацыяй кепскага артыста (жонка прызнаецца, што дарэмна яго ўсе гады на сцэну цягне), ды пад вальс Догі з «Майго ласкавага й пяшчотнага звера» прыгожа рушыць ратаваць сваё каханне з волжскіх хваляў, — з каго, як не з Кацярыны («Навальніца» Астроўскага), мусілі смяяцца гледачы, якое тое тапельства рыхтавалася?

Другі акт пачынаецца з паўтору патэтычна-тапельнае сцэны: рэжысёр Галакціёнаў паліць, вылівае ваду з ботаў ды самотна нацягвае шкарпэткі, пакуль грамада ратуе Нону-Курыцу пад вальс Догі. Рэжысёр, нібы пераймаючы з Міхаіла Чэхава, прамаўляе пакутніцкі маналог пра нікчэмны фарс, які перад намі іграецца... Калі б яму гэткае са сцэны паказалі, ён пляваў бы ў бок артыстаў, маўляў, ці ж няможна гэтае бязладдзе хоць бы прыбраць у прыстойнейшыя апранахі... (У эпілогу гэтае жаданне спраўдзіцца з літаральнаю адпаведнасцю. Удзельнікі пераапрануцца ў тэатральнае ды прыгожае, усё адно як новаю формаю падступіўшыся да новага зместу, а, верагодна, шчыра спрыяючы нараджэнню гэтага зместу). А пакуль заўважаеш, што рэжысёр з адміністратарам апрануты аднолькава, — так, што Вася (А. Памазан і У. Кін-Камінскі) — ягоны люстраны адбітак, толькі мізарнейшы. (Заўважу, што Вася ў выкананні У. Кін-Камінскага шчыра абмежаваны, дурнаваты, нямудры, хоць і прадстаўляецца гэткім Арлекінам, якому наканавана крыўдзіць П'еро, — таго аддалена нагадае постаць галоўнага рэжысёра на ложку. У А. Памазана роля вытрымана ў стрымана-сур'ёзнейшых танах, ён увогуле бліжэй да рэжысёравага разумення персанажа, але — толькі бліжэй...) «Я нікому не патрэбны», — абвесціць Вася, знайшоўшы свой ход у інтэрнацка-жыццёвым гармідары: «І я...»—выдае з твару галоўны... Яму ніякавата й сорамна. Да ўсяго — ад паводзін Дзіяны, — тая, разышоўшыся, перавыхоўвае Васю, б'ючы яго круглым каленам у самае далікатнае месца...

...Пяць жалобных й пакутных постацяў змесціць сцэна, — сярод іх — двух мужыкоў з голымі нагамі ў непарадных чаравіках ды шэрых паліто, надзетых проста на бялізну. Зразумець да канца сябе й сваю незапатрабаванасць хочуць мужыкі, таму кладуцца побач з Нонаю ў ложак, і кожны патрабуе сваёй праўды. Люстэрка ў галовах ложка павялічыць колькасць людзей у шэрым вакол Курыцы. Ды не скалане глядацкую свядомасць здагадка, што праз ложак гэты прайшла армія ў шэрым, — аднолькавых... з аднолькавымі запатрабаваннямі, аднолькава... непатрэбных Ноне-Курыцы. Іх, шэрых абдымальшчыкаў, разганяе стрэл з бутафорскага пісталета Распарадчыка (месца, дзе герой А. Падабеда вельмі задаволены і сабою, і развіццём падзей, — ягоная дзелавітасць нават перагукаецца з дзелавітасцю Дзіяны), а ў Ноны праз істэрычны смех прабіваецца: непатрэбная, непатрэбная, незапатрабаваная... Ва ўсёй сваёй маладосці й прывабнасці... Яўгенія Кульбачная перажыве гэта сакавіта, папярэдне сумленна працытаваўшы са сваіх роляў, — да месца, трэба заўважыць, з пачуццём меры; Валерыя Ліхадзей давядзіць гэта далікатна ды сарамліва, — прынамсі, тэатральным мужыкам гэткага зразумець пра яе не дадзена... Жанкам, праўда, таксама. Хоць жыццёвы досвед апярэдзіць іхнюю здагадлівасць, хоць пагрозы Ноны з'ехаць назаўсёды толькі страсянуць паветра, — але мужыкі, працягнуўшы паўзу пасля збораў ды адыходу Курыцы, уздыхамі дадуць зразумець, што тэатр, скажам, іхні тэатр, не змяніўся ніяк, або мяняцца не будзе, — ні з мовы, ні з гловы. А яны — выбіраюць тэатр. Магчыма, не патрэбны нікому, акрамя іх.

...Бокам да залы, абапёршыся на тэатралізаваны ложак з люстэркам у галовах, прамовіць рэжысёр Галакціёнаў свой тэкст пра тое, як стаміўся жыць, якое мізэрнае ягонае, Богам дадзенае, жыццё, і што ніхто з прысутных (на сцэне) гэтага не разумее... Ён — чалавек без будучыні, ягоны тэатр — без будучыні. Жыццё мінула — бяздарна. Пазначкай ролі мроіцца трагедыя, якая так пасуе мужчыне і якая... не адбылася. Мо таму, што раствырылася сярод мільёнаў трагедый? Альбо таму, што ў сапраўднай трагедыі гіне не герой — гіне хор... (Брук, Чэхавы, Міхаіл з Антонам Паўлавічам, Дастаеўскі ды Бродскі аб'ядналіся ў гэтых думках, хіба не пераняўшы адзін з аднаго).

Але героі, якім пасуе быць трагікамі, робяць-такі намаганне загінуць — хорам. Вася з Галакціёнавым разам кідаюцца вязаць пятлю. Распарадчык прыспешвае манціроўшчыкаў, каб вяроўку спусцілі ніжэй, і люстраныя шэра-бялізнавыя мужыкі памкнуць змагацца за тое, хто з іх больш трагічны, прабачце, няшчасны, — крычучы, равучы, нервуючыся. Мужыкі шчыра-тэатральна тузаюцца за права на трагедыю, а кабеты па-глядацку шчыра перажываюць гэтую тузаніну... на авансцэне, пакуль пятля ўпарта ці то не завязваецца, ці то па чарзе не ўзлазіць на галовы шыбенікам. Пад гвалт разумеюцца мужыкі са сваімі кабетамі (камікаванне ў ролі Васі спрашчае сцэну У. Кін-Камінскаму, але А. Памазан, які ў гэтай самай ролі вядзе сцэну, так бы мовіць, бліжэй да жанру, відавочна не падрыхтаваў яе папярэднім выкананнем. Адметна, з уяўным пераломам ды прагаю прасвятліцца прадстаўляе персанажа В. Філатаў). У гвалце кідаюцца з зэдлікаў, — разам, хорам, трымаючыся за вяроўку рукамі, і выдзіраюць крук са столі, — на крук гэты колісь вешалі калыску Васевай малодшай дачкі...

Яшчэ колькі эпізодаў адшуміць кампанія ў інтэрнацкім пакойчыку, пакуль не з'явяцца з калідора цікаўныя суседзі,— магчыма, сапраўдны хор... Хор, які абвесціць спектакль у інтэрнаце самым лепшым з тых, якія давялося бачыць. Каларытныя ролі сыграюць А. Сідарава, В. Няфёдава, В. Рэдзька і В. Паўлюць, — касматымі языкамі. «Па-народнаму» выявяць сваё захапленне, — адзін (В. Рэдзька), падцягваючы штаны й перасмыкаючыся, падасць кабетам кветку ў гаршку, другі (В. Паўлюць) пацалуе ў макаўку рэжысёра, пацісне яму руку... За гэтымі з'яўленнямі, дзякуй Пінігіну, не прачытаецца ні лёсаў, ні наканаванняў гэтых персанажаў, — яны адфункцыянуюць, аздобяць дзеянне, узрадуюць залу яскраваю вынаходліваю характарнасцю, але не стануць замінаць залішнімі перажываннямі,— тымі, якія ўспесціў ды ўзгадаваў у ролях «маленькіх людзей» савецкі тэатр...

«Большое вам человеческое спасиба за вашу самадзеяцельнасць», — прамовіць дзяўчына А. Сідаравай, і за ёю з палёгкаю ўздыхне зала: ніхто не скончыць самагубствам, ніхто не запрэтэндуе на вялікія мастацкія дасягненні. Дашчатаўскія артысты выйдуць на паклон, абмяркоўваючы па дарозе свае знаходкі ў ролях ды выгляд, і нават рэжысёр здаволіцца на нейкі момант... І скажа запазычаны ад чэхаўскіх герояў тэкст, маўляў, трэба жыць, трэба жыць, бо жыццё працягваецца! І нагадае пра неба ў алмазах, пад якое (не пад якім) вернецца на ложак Курыца з валізай — ціхутка ды сціпленька падрыхтаваўшыся да фіналу, які мы хорам і перажывём. Рэжысёрскі фінал абсалютна шыкоўнага, выбітна-тэатральнага, літаральнага пахавання ўсіх сваіх і не сваіх тэатральных спадзяванак, роляў, зменаў, нябёсаў у алмазах, пылу ў кулісах, дый саміх сябе ў гэтым пыле й распыле...

Усіх, хто намуляў языкі, здаецца, працытуюць персанажы; шмат каго — крыху парадыйна, крыху сентыментальна ды ўкахана ў тэатр працытуе Мікалай Пінігін; шмат з таго, што знайшла ды схацела, працытавала і я... Увішны персанаж А. Падабеда спрытна падрыхтуе пахаванне і нашым цытатам: ложак пераробіць на катафалк, запаліць свечкі, прыстасуе вянкі, уладкуе Нону. Не ўбачым мы неба ў алмазах. І наш тэатр схлусіць, бо і з намі, зменненымі, не зменіцца ў выніку сваім. І наш імпэт сыдзе на стогн адукаванага чалавека: «Нас пазбавілі ўсяго!» Хлусня. Нічога нас не пазбавілі. Нас адно звыродзілі — разам з прыродаю нашых пачуццяў...

...Ложак-катафалк памкне па коле пад нястройнае гранне музыкаў, што з намерам не патрапляюць у фанаграмную падтрымку... Кепскі тэатр перастрэне не лепшае жыццё...

...Эпілогу мы прычакаем рыхтык паводле фармулёвачкі «зрабіце нам прыгожа». Пінігін зробіць прыгожа. З клетак-кратак, перароблены на акцёрскія грымёркі, блісnуць круглымі вачыма цытаты-люстэркі, пераміргнуўшыся жартам мастака Зіновія Марголіна з люстэркам над ложкам Курыцы. Самую паненку вынесуць у цемру сцэны, пакладуць ды «аджывяць». Проста й з сэнсам ўвасобіцца мроя самой Дузэ. Ужо пад пражэктарам трэніраваным рухам Распарадчык разарве ўбогі Курыцын плашчык... І з яго цытавана-хораша ў бялюткім беллі вылузнецца новая гераіня... Новага кшталту? Новага зместу? А хто, зрэшты, як не дзяўчаткі ва ўбогіх савецкіх плашчыках прадстаўляюць змесціва Афелій ды Джульет? Яны, яны — тэатральныя Курыцы з павадкамі кракадзілаў, ільвоў, арлоў ды курапатак. («Людзі!..» — патлумачыць рэжысёру Галакціёнаву апіваха В. Паўлюця пра сваіх інтэрнацкіх суседзеў; «артыстамі» будуць падкрэслена проста менаваць тэатральных людзей інтэрнацкія людзі.) Мо хоць артысткі Курыцы, будучыня дашчатаўскага мастацтва, нешта ўведаюць пра новы тэатр, у якім— выйсце?.. Нездарма ж гэтая будучыня-Курыца («сава, не жаўрук») у рэжысёравых задачах затармажана чакае сваёй часіны да самай развязкі...

...Персанажы то разыходзяцца па грымёрках, то спраўна выходзяць на паклон, а з-пад каласнікоў — сфер неспазнанай хлусні — сыплюцца цудоўныя штучныя кветкі, мабыць, траха запыленыя, — як пытанні пра новае тэатральнае змесціва, пра новы й найноўшы сэнс, як новыя адказы ды цытаты... Пахаванне - адраджэнне, тэатральна прыдуманае ды пастаўленае Пінігіным, вымагае нецытатнасці, няўведанасці, нетутэйшасці. І тысячу тысячаў паўтораў, на якіх, паводле паэта, утрымаецца і зямля, і мастацтва.

...«Як велізарную хлусню ўспрымаў я тэатральны свет. Акцёр здаваўся мне найвялікшым злачынцам і хлусам... Я бачыў няпраўду, але яшчэ не бачыў праўды».

...І я яшчэ не бачу.

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**



«Курыца» М. Каляды ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Г. Талкачова (Ала Кастрова) і В. Ліхадзей (Нона-Курыца).

Фота У. ПАНАДЫ.

ПРЭМ'ЕРЫ

# У МУЗКАМЕДЫІ... БАЛЕТ



Сцэна са спектакля «Іспанскі дывертысмент». Фота І. МАКАЛОВІЧА.

За ўсю гісторыю існавання Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі толькі двойчы гэты калектыў звяртаўся да пастаноўкі чыста балетных спектакляў. Як вядома, у пастаноўках тэатра музкамедыі балет адыгрывае не самую галоўную ролю, ён хутчэй выкарыстоўваецца як фон ці аздоба да асноўнага сцэнічнага дзеяння. Тым не менш, у склад балетнай трупы тэатра ўваходзяць людзі з адпаведнай падрыхтоўкай, здольныя ўдзельнічаць у больш маштабных работах. Таму ў свой час тэатр і ажыццявіў пастаноўку балета «Паненка і хуліган» на музыку Д. Шастаковіча. Глядацкі поспех спектакля засведчыў высокі прафесійны ўзровень выканаўцаў.

Сёння палова балетнай трупы тэатра—сёлетнія і леташнія выпускнікі Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Рашэнне тэатра зноў звярнуцца да пастаноўкі балетных спектакляў— вельмі спрыяльны момант для творчай моладзі. За кароткі перыяд былі падрыхтаваны два аднаактовыя балеты—«Штраусіяна» ды «Іспанскі дывертысмент», і перад самым новым годам адбылася іх прэм'ера.

Упершыню «Штраусіяна» была пастаўлена славутым У. Бурмейсцерам на сцэне Маскоўскага музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і У. Немiровіча-Данчанкі ў далёкім ваенным 41-ым. Задума гэтага балета ўзнікла пад уздзеяннем вельмі папулярнага ў той час амерыканскага фільма «Вялікі вальс», які выклікаў шырокую цікавасць да музыкі І. Штрауса і да асобы самога кампазітара. Доўгі час гэты спектакль жыў на розных сцэнах вялікай краіны, але цяпер ні ў адным тэатры былога Саюза ён не ідзе.

Перанос пастаноўкі «Штраусіяны» ажыццявіла балетмайстар Наталля Васкрасенская, якая ў свой час танцавала ў гэтым спектаклі на сцэне музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і У. Немiровіча-Данчанкі. Тэкст лібрэта ў праграмцы «Штраусіяны» адсутнічае: харэаграфічныя вобразы настолькі выразныя, што не вымагаюць ніякага тлумачэння. Балет гэты цікавы тым, што мноства роляў у ім увасоблена прыёмамі танцавальнай пантамімы. Вельмі цікавую сцэнаграфію ажыццявіў У. Жданаў. Менавіта ён, мастак, першы атрымлівае апладысменты гледачоў яшчэ напачатку, як толькі раскрываецца заслона. Дырыжор спектакля—А. Сасноўскі.

Другая частка балетнага вечара—«Іспанскі дывертысмент» на народную музыку—мае нумарны характар. За аснову пастаноўкі ўзяты двухактовы балет «Іспанскія мініяцюры», які ў 50-ыя гады быў пастаўлены ў Ленінградзе, у Кіраўскім тэатры. Харэаграфія В. Г. Херарды была настолькі бліскучая, а майстэрства выканаўцаў настолькі высокае, што іншыя тэатры лічылі немажлівай для сябе пастаноўку гэтага спектакля. Але цікавасць да яго была велізарная. У 60-я гады В. Г. Херарда ажыццявіў сваю пастаноўку ў Пермскім тэатры оперы і балета. Адну з вядучых партый у ім выконвала маладая балерына Ніна Дзьячэнка, якая цяпер працуе балетмайстрам у нашым тэатры музычнай камедыі. Ёй і належыць задума і ажыццяўленне «Іспанскага дывертысмента». Ведаючы гэтую пастаноўку знутры, праз сваю ўласную працу, а таксама добра ведаючы артыстаў трупы, многія з якіх былі яе вучнямі ў Беларускім харэаграфічным вучылішчы, Н. Дзьячэнка адабрала тыя мініяцюры з вядомага балета, якія больш арганічна маглі ўвасобіць нашы выканаўцы. Спектакль атрымаўся вельмі відовішчны, дынамічны. Агністыя і тэмпераментныя мелодыі стварылі агульны настрой весялосці і прыўзнятасці. Сцэнаграфію гэтага балета ажыццявіў таксама У. Жданаў. Падрыхтаваў спектакль да выпуску дырыжор С. Бурак.

У творчых планах балетмайстра Н. Дзьячэнкі—стварэнне харэаграфічнай сцэны, якая б вылучалася мабільнасцю. На сённяшні дзень у нашай рэспубліцы ёсць толькі адна вялікая, прэстыжная сцэна балетнага тэатра, работы якой, на жаль, даступныя ў асноўным толькі жыхарам сталіцы ды замежным гледачам. А калі працягваць сур'ёзную працу з харэаграфіяй на сцэне тэатра музкамедыі, то ў перспектыве можа з'явіцца яшчэ адна балетная трупа, якая будзе больш мабільнай і зможа даваць выязныя спектаклі па Беларусі.

**Зоя ЛЫСЕНКА.**

СПАДЧЫНА

# У НАС—ТОЛЬКІ КОПІЯ

Мінуўшчына Беларусі тоіць многа цікавага і каштоўнага для адраджэння нацыянальнай культуры. У гэтым сэнсе старажытныя рукапісы, гісторыя іх стварэння і захоўвання адкрываюць новыя старонкі жыцця нашых продкаў. Друцкае евангелле з'яўляецца якраз такім дакументам беларускага сярэдняевечча.

Евангеллі (у перакладзе з грэчаскай мовы—добрая вестка) на Беларусі існуюць з часоў прыняцця хрысціянства. У іх апісваецца зямное жыццё Іоуса Хрыста і даводзяцца асноўныя догматы хрысціянства. Рукапісныя кнігі беларускага паходжання вядомы яшчэ ў XI стагоддзі. Старэйшымі з іх, дайшоўшымі да нашага часу, з'яўляюцца Тураўскае евангелле (XI ст.), Полацкія (XII, XIII—XIV ст ст.), Аршанскае (XII ст.). Лаўрышаўскае, Мсціжскае, Віцебскае (XIV ст.), а таксама Друцкае евангелле XIV ст. На жаль, гэтыя помнікі беларускай культуры знаходзяцца не ў сховішчах Беларусі. Паводле даных В. Ластоўскага (гл. «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі». Коўна, 1926 г.) ацалелая частка Тураўскага евангелля і рукапіс Мсціжскага знаходзяцца ў Вільні, Полацкія — ў Маскве і С.-Пецярбурзе, Аршанскае — ў Кіеве, Лаўрышаўскае — у Кракаве, Віцебскае — у С.-Пецярбурзе. Такі ж лёс напаткаў і Друцкае евангелле. Сёння гэты беларускі рукапіс, «жамчужына» сібірскага збору рукапісаў акадэміка М. М. Ціхамірава, захоўваецца ў Дзяржаўнай публічнай навукова-тэхнічнай бібліятэцы СА Акадэміі навук Расіі пад нумарам адзін.

Што ўяўляе сабой гэты помнік? З вонкавага выгляду гэта тоўстая кніга, пераплёт якой абкладзены драўлянымі дошкамі ў чырвоным аксаміце. Яна напісана на пергаменце на царкоўна-славянскай мове ўставам (самы старажытны тып кірыліцкага пісьма) першай паловы XIV ст. Тэкст размешчаны на 376 старонках у дзве калонкі па 25—28 радкоў. Падобна іншым старажытным рукапісам, тэкст аздоблены адмысловымі, у выглядзе стылізаваных жывёлін, загалоўнымі літарамі.

Друцкае евангелле належыць да тыпу евангелляў, званых па-грэчаску «апракос», гэта значыць нядзельных евангелляў, размешчаных у парадку царкоўнага чытання на ўвесь год, пачынаючы з нядзелі Вялікадня. Такім чынам, Друцкае евангелле з'яўляецца таго ж самага тыпу богаслужэбнікам, што Астраміраўскае і Тураўскае. Два апошнія евангеллі добра вядомы навуковай грамадскасці.

На першым лісце пергамента ў правым ніжнім ражку ўставам XIV ст. запісаны слаба чытэльныя імёны для памінання, а ў левым верхнім — імёны запісаны ўжо беларускім паўуставам XV ст.

Звесткі аб гісторыі Друцкага евангелля маюцца ў канцы рукапісу. З іх вядома, што евангелле было ўласнасцю князя Васіля Міхайлавіча Друцкага, які падараваў яго царкве Святой Багародзіцы ў г. Друцку (сярэдневяковы горад Беларусі, знаходзіўся ў вытоках р. Друці, да нашага часу не захаваўся). Вось запіс, зроблены рукою пісца асноўнага тэксту евангелля: «В лето 6509 (1001-ое) створена бысть церкви сия Святая Богородица вь граде во Дрютьсце, а служити в неи вседеньная служба, божиею милостью и его пречистыя матере и рабом божьимь княземь Васільемь Михайловичемь и его княгинею Василисою. А положил есмь с своею женою божественное еуангелие и окoвал. Да дал есмь Святеи Богородице село Моравьиничи и с людьми и со всеми пошлинами и с медовою данью и с селищи и с пожьнями, что ис того села заведають».

Пра князя Васіля Міхайлавіча Друцкага нам вядома, што жыў ён у першай палове XIV ст. і што ад яго пайшла старэйшая лінія князёў Друцкіх.

Рукапіс мае яшчэ два запісы, што апавядаюць аб далейшым лёсе евангелля. Запіс 17 сакавіка 1441 года расказвае, што віленскі мешчанін Конан паклаў евангелле ў царкву Ўваскрошання ў Вільні. Другі запіс, зроблены беларускім скорапісам XVIII ст., сведчыць аб прыналежнасці Друцкага евангелля Вяліканаўгародскаму архіепіскапу Феадосію Яноўскаму.

У пачатку кнігі ёсць яшчэ адзін допіс, зроблены тым жа беларускім скорапісам XVIII ст. Вось гэты допіс: «Сіе евангелле писано року 1441, когда ёще не було друкарен прежде Флоренского собору». Як вядома, кнігадрукаванне ў Еўропе ўзнікла ў 40-х гадах XV ст. Фларэнцкі сабор, на якім была падпісана царкоўная унія, адбыўся ў 1439 годзе. Такім чынам, дата (1441 г.), дадзеная ў дадатку да рукапісу, мала верагодна. Апроч таго, надта многае адбываецца за два з паловай месяцы гэтага года. За гэты час евангелле быццам закончылі пісаць, і ўжо ў сакавіку, як сведчыць запіс у гэтым помніку, віленскі мешчанін Конан паклаў яго ў царкву Ўваскрошання ў Вільні. Тады ўзнікае пытанне: калі рукапіс быў уласнасцю друцкага князя Васіля Міхайлавіча і калі ён з ім развітаўся? Чаму так хутка ён з'явіўся ў Вільні?

Нам дакладна невядома, калі і як Друцкае евангелле стала ўласнасцю акадэміка М. Ціхамірава (1893—1965 гг.). Вядома, што на працягу многіх гадоў ён збіраў старажытныя рукапісы, а ў канцы жыцця падараваў свой навуковы скарб (500 рукапісных кніг XIV—XIX ст ст.), у тым ліку і Друцкае евангелле, Сібірскаму аддзяленню АН СССР. А на Радзіме, у Рукапісным аддзеле Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа, захоўваецца толькі яго мікракопія.

**М. БАБЁР,**
**навуковы супрацоўнік Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументацыі і рэтраінфармацыі.**

З БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# ТРАДЫЦЫІ — НЕ ПАМІРАЮЦЬ

На апошнім студзеньскім пасяджэнні беларускай суполкі ў Санкт-Пецярбурзе адбылося абмеркаванне кніжкі, якая ўбачыла свет... толькі праз 169 гадоў пасля яе напісання.

Гаворка ідзе пра кнігу «Беларуская іерархія», напісаную вядомым беларускім гісторыкам і археографам протаіерэем Іванам Грыгаровічам.

Падрыхтаваная да друку яшчэ ў 1824 годзе — гэта, калі прыгадаеце, час найбольшага творчага ўздыму А. С. Пушкіна, — яна не была ўхвалена Свяшчэнным Сінодам і... далейшы яе лёс загадкавы і няясны: ці набор быў рассыпаны, ці — гэта таксама версія, якая чакае ўдакладнення, — было зроблена некалькі адбіткаў, але дзе яны цяпер — невядома, мо і дагэтуль ляжаць у якім сховішчы, і каму-небудзь з даследчыкаў мінуўшчыны пашчасціць знайсці іх, як пашчасціла пецярбуржцу Міколу Нікалаеву, які сярод сямейнага архіва Івана Грыгаровіча нечакана знайшоў рукапіс гэтай працы, якая лічылася незваротна страчанай, хаця гісторыкі ведалі пра яе існаванне і нават спасылаліся на яе ў сваіх працах.

І вось, дзякуючы намаганням Міколы Нікалаева, які пераклаў твор Грыгаровіча на беларускую мову (кніга мелася быць дадаткам да «Истории российской иерархии» іераманаха Амвросія і таму пісалася па-руску), і дбайным клопатам «Беларускай энцыклапедыі» (найперш у асобе яе былога кіраўніка Міхася Ткачова, які падштурхнуў М. Нікалаева да таго, каб ён пераклаў гэты гістарычны помнік), кніжка Івана Грыгаровіча «Беларуская іерархія» ўбачыла нарэшце свет у той краіне і на той мове, дзеля якой яна ўвогуле і пісалася, — на Беларусі. І цяпер кожны, хто цікавіцца гісторыяй беларускай царквы, можа азнаёміцца з ёй, як гэта зрабілі сябры беларускай суполкі ў горадзе на Няве.

— Вельмі прыемна,—сказаў старшыня Рады БГКТ Валянцін Грыцкевіч, — што такую карысную для Беларусі справу зрабіў сябра нашай суполкі, і мы ўдзячны яму не толькі за самаахвярнасць (пераклад і падрыхтоўка кнігі рабілася ў вольны час, знайсці які для загадчыка аддзела газет Расійскай нацыянальнай бібліятэкі сапраўды праблема), але і за той высокі прафесіяналізм, які выказаў спадар Нікалаеў, адразу зразумеўшы вартасць сваёй знаходкі.

— Прыемна, што традыцыі колішніх пецярбургскіх беларускіх гуртоў не паміраюць, і ў асобе М. Нікалаева мы маем адметнага прадстаўніка гэтых традыцый,— сказаў у заключэнне В. Грыцкевіч.

**Анатоль КІРВЕЛЬ,**
**літаратар, сябра БГКТ.**

г. Санкт-Пецярбург.

успрымалася следчымі як моцна абцяжарваючая акалічнасць. На следстве 15 ліпеня 1930 г. ён зрабіў падзел уяўных кіраўнікоў СВБ па арыентацыях: «Сярод членаў СВБ былі два накірункі: незалежніцкі, федэралісцкі, да якога адносіўся я, Смоліч, Трэмповіч, і паланафільскае —Ластоўскі, Некрашэвіч, Лёсік і неакрэслены А. Цвікевіч. З ліку тых, што стаялі блізка да цэнтра СВБ, Якуб Колас прымыкаў да групы, якую ўзначальваў я, а Янка Купала прымыкаў да групы Ластоўскага» (т. 4, с. 156). Бясспрэчна, следчыя паказалі пратакол з гэтымі няслужнымі падзеямі Ластоўскаму. Даказаць надуманасць іх было нялёгка, тым больш, што допыты Краскоўскага і Ластоўскага праводзілі маскоўскія следчыя, якія не разбіраліся ў тонкасцях палітычных узаемаадносін беларускага эміграцкага ўрада з БССР, Польшчай, Літвой і Латвіяй. Ластоўскі даў 31 ліпеня 1930 г. падрабязныя паказанні аб замежнай палітыцы свайго ўрада: «Літоўскі ўрад даў ураду БНР права прабывання ў Літве, вядзення палітычнай работы з Літвы за ажыццяўленне беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасці і аднаразовы заём у колькасці 1 мільён літаў. Беларускі ўрад браў на сябе вядзенне ўзброенай і агітацыйнай работы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Згодна з літоўскім урадам і пры дапамозе яго палітычнага і пагранічнага апарату. І абавязваўся не праяўляць актыўнай варожасці адносна СССР і ў прыватнасці БССР.

Акрамя пісанай умовы, было вуснае пагадненне адносна тэрыторыі Заходняй Беларусі ў выпадку вызвалення яе ад польскай акупацыі, яно заключалася ў наступным: на этнаграфічна беларускай тэрыторыі ствараецца беларуская дзяржаўная ўлада з устанаўленнем сейма і ўрада, аб'яднанага з літоўскім урадам, з агульнаю сталіцай у Вільні.

У момант заключэння дагавора на тэрыторыі Усходняй Беларусі была польская акупацыя. Ні ў пісьмовай, ні ў вуснай дамове не было ніякага ўпамінання аб Усходняй Беларусі. Пазней адносіны БНР да БССР вызначаліся непрызнаннем БССР як беларускай нацыянальнай дзяржавы, як не адпавядаючай інтарэсам беларускага народа, як з прычыны недастатковасці граніц, так і з нездавальняючай культурнай самастойнасці.

Па пытанні барацьбы камуністычнай партыі супраць польскага імперыялізму БНР лічыла, што паколькі барацьба гэтая з'яўляецца барацьбой беларускага працоўнага народа з памешчыкамі і буржуазнай эксплуатацыяй, ні ў якім выпадку не перашкаджаць гэтай барацьбе, застаючыся спачувальна-нейтральнымі» (т. 4., с. 11).

Думаю, чытач ацэніць інтэлігентнасць і пераканальнасць прыведзеных цытат і не папракне мяне за іх даўжыню. Але не так думалі следчыя... Ластоўскаму хапала інтэлігентнасці на тое, каб разумець, што разграбанне Краскоўскім забытых і дараваных пастановай урада БССР спраў было выпусканнем д'ябла з бутэлькі. Адсюль і такой адчайнай была яго рэакцыя, якую сунімалі гаспадыня і гаспадар салона, які Ластоўскі назваў бы ў цяжкую для сябе часіну не інакш, як хатай сваіх шчырых і годных даверу сяброў.

Не толькі гэтую крыўду душы Ластоўскага зычліва злагоджваў і надзейна захаваў асабняк Купалы. Не менш балючым было для вучонага адступніцтва ягоных аспірантаў Шлюбскага і Касяровіча, але гэта асобная тэма. Мы ж зоймемся яшчэ адной цяжкай таямніцай бываліцы салона Купалы.

Вынік самагубнага кроку быў для народнага паэта фатальным: мучылі яго фальшывыя казённыя юбілеі, дараваная ўрадачам дача, легкавая машына з шафёрам на казённай зарплаце, урадавыя банкеты з хвалебнаю хлуснёю, якую трансліравалі па радыё, а слухалі родзічы яго рэпрэсіраваных сяброў-адраджэнцаў, вернікаў беларускай ідэі, якіх тыя ж ласкавыя ўлады не выпускалі з лагераў і ссылак, а ўсё прыбаўлялі і прыбаўлялі бязвінным патрыётам Беларусі гадоў пакуты і ўрэшце загубілі недзе ў лесе пад Мінскам ды ў расейскай глушы.

Хіба дайшла да паэта па тэлеграфе даверу звестка, што ў Мінску расстраляны ў 1938 г. гісторык, прафесар, прэм'ер урада БНР, які па добрай волі перадаў у 1925 г. свае паўнамоцтвы ўраду БССР, Аляксандр Цвікевіч, старшыня тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта, акадэмік Сцяпан Некрашэвіч, які, як і Купала, спрабаваў скончыць жыццё самагубствам (кідаўся ў лесвічны пралёт мінскай турмы «Амерыканкі»). Таксама ў Мінску быў расстраляны ўдзельнік грамадзянскай вайны на баку чырвоных, таленавіты беларускі празаік Міхась Зарэцкі, у магілёўскай псіхлячэбніцы памёр пісьменнік, першы старшыня ўрада БССР Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), у Саратаве быў асуджаны на смерць і расстраляны Вацлаў Ластоўскі (у ссылцы склаў для тамашняй бібліятэкі каталог твораў Пушкіна), а ў Омску смяротная кара напаткала аўтара падручніка па геаграфіі Беларусі Аркадзя Смоліча.

Усе яны былі наведвальнікамі гасцёўні Купалы, усіх іх і многа іншых дапытвалі следчыя, патрабуючы прызнаць, што гасцёўня была штабам СВБ, а гаспадар—хросным бацькам змоўнікаў. Паказанні напэўна давалі пачытаць Купалу ў часе выклікаў «на размовы» ў ГПУ. У. Міхнюк выказвае ў прадмове да публікацыі «Захоўваць вечна» меркаванне, што «гэтымі паказаннямі маглі шантажыраваць паэта». Хто? Хіба следчыя, што хацелі «задзейнічаць Купалу ў справе СВБ». Не хочацца верыць у шантаж з боку арыштаваных адраджэнцаў.

Адказы на пытанні следчых, чым была гасцёўня Купалы і кім быў Купала для СВБ, падзяляліся на тры групы: тыя, хто прызнавалі сябе вінаватымі, гаварылі, быццам гасцёўня Купалы іграла адначасна і ролю палітычнага клуба; тыя, што не прызнавалі сябе вінаватымі, цвёрда адмаўлялі гэтую версію і лічылі, што гасцявалі ў Купалы, каб адвесці душу; урэшце тыя, што прызнавалі сябе часткова вінаватымі, хісталіся, дапускалі, што магла служыць гасцёўня і гаспадар чаму-небудзь тайнаму, пра якое яны нічога не ведаюць.

Не арыштаваныя адраджэнцы шантажыравалі Купалу, а сталінісцкая мафія з ЦК і ГПУ. Шантажом насамперш стала нематываванае выключэнне з-пад следства і паказное апякунства. Гэта дало права мучаным і праследаваным патрабаваць ад Купалы сур'ёзных тлумачэнняў. Шантажом справакаваны выбух супраць нібыта «багемных» нораваў у гасцёўні Купалы з боку медыка Трэмповіча. У канцы 30-х гадоў гэтай жа прычынай выкліканы зрывы і асуджэнні Купалы ва ўспамінах Кузьмы Чорнага, які не ведаў, каму прад'явіць рахунак за знявечанне (следчыя саджалі яго на кол) і непрацаздольнасць, калі ўзнесеныя ў неба маленні: «Божа, дай сілы закончыць мае раманы» заставаліся без адказу.

На шантажы замешаны жанр непрыстойна ўдзячных одаў Купалы правадыру і наіўныя вершыкі пра шчаслівых камунараў, калгаснікаў і маладых калгасніц, лётчыкаў і хлопчыкаў. Пісалася ўсё гэта як спазмы віны і спробы адкуплення, як магічныя заклінанні ўласнай душы ад тугі і пакуты смяротнай. Купала ніколі ўжо не вырваўся з кіпцюроў дэпрэсіі, можа, часам паддаваўся ілюзіі, што яго місія народнага паэта, ахоўніка і творцы скарбаў беларускай культуры ўсё ж патрэбная. Магло яму здавацца, што няма ў народзе сілы, якая здольна спыніць эксперыменты па інтэрнацыяналізацыі і дэнацыяналізацыі, што тварыліся зверху. Ён мог хоць часткова стрымліваць закусы інжынераў уніфікацыі свету самім фактам прысутнасці ў літаратурна-творчым жыцці Беларусі. Літаратурная крытыка і грамадская думка Заходняй Беларусі лічыла, што «міма палітычна-агітацыйных момантаў, — як пісаў рэдактар «Калосся» Янка Шутовіч, —творчасць Купалы... мае вялікае значэнне і для беларускай нацыянальнай культуры, перадусім з гледзішча мастацкага і з гледзішча культуры слова».

1/ Следственное дело Ластовского и др. Архив КГБ РБ. Арх. № 5536/8. т. 4, с. 456. Далей следчыя паказанні з гэтай крыніцы. том і старонка падаюцца ў дужках.

2/ Знаўца беларуска-літоўскіх праблем, аўтар кнігі.

3/ Так называўся ўрад, створаны А. Луцкевічам пры акупацыі Менску палякамі, зарыентаваны на супрацоўніцтва з Пілсудскім.

**(Працяг будзе).**

# КІМБЕРГ Якаў Мікалаевіч

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 27 студзеня на 84-м годзе жыцця памёр Якаў Мікалаевіч Кімберг — народны артыст Рэспублікі Беларусь, адзін са старэйшых майстроў беларускай драматычнай сцэны.

Якаў Мікалаевіч Кімберг нарадзіўся 3 (16) снежня 1909 г. у гор. Адэса. Пасля атрымання спецыяльнай тэатральнай адукацыі працаваў у Бабруйскім калгасна-саўгасным і Бабруйскім абласным драматычным тэатрах. У час Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся на флоце, у дзеючай арміі.

З 1947 г. назаўсёды звязаў свой творчы лёс з Гродзенскім абласным драматычным тэатрам, якому аддаў больш чым 25 гадоў творчай энергіі і жыцця.

Менавіта на сцэне гэтага тэатра яскрава раскрыўся глыбокі, рознабаковы артыстычны дар Якава Кімберга. Багатая выяўленчая палітра сцэнічных фарбаў, схільнасць да імправізацыі, спалучэнне псіхалагічнага аналізу з выразным знешнім малюнкам заўсёды вылучалі сыграныя ім ролі. Гэта Бубнаў і Манахаў у п'есах М. Горкага «На дне» і «Варвары», Аркашка і Шмага ў п'есах А. Астроўскага «Лес» і «Без віны вінаватыя», Чабутыкін у п'есе А. Чэхава «Тры сястры», Мітрыч у п'есе А. Талстога «Улада цемры», цэлая галерэя іншых гістарычных і сучасных вобразаў айчыннай і сусветнай драматургіі.

Удзячны глядач назаўсёды запомніў выдатныя работы, створаныя Якавам Кімбергам па творах беларускіх аўтараў—Шыковіч («Сэрца на далоні» паводле І. Шамякіна), Цярэшка («Трыбунал» А. Макаёнка) і многія, многія іншыя ролі, якім заўжды была ўласціва вялікая жыццёвая верагоднасць, мяккасць, яркі гумар і чалавечая цеплыня.

Апошнія гады жыцця Якаў Кімберг многа і плённа працаваў у Гродзенскім культурна - асветным вучылішчы, аддаючы свой багаты сцэнічны вопыт творчай моладзі.

Якаў Кімберг заўсёды вылучаўся сваёй чалавечай шчырасцю і грамадзянскай адказнасцю, прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі, узнагароджаны шэрагам баявых і працоўных ордэнаў і медалёў.

Усё жыццё Якава Кімберга — прыклад самаадданага, вернага служэння мастацтву на карысць народу, у імя нашай Бацькаўшчыны. Памяць аб ім будзе жыць у нашых сэрцах.

**М. ДЗЯМЧУК, Н. ГІЛЕВІЧ, Я. ВАЙТОВІЧ, Д. АРЦІМЕНЯ, М. КАЛАЦЕЙ, А. ДУДАРАЎ, М. ЯРОМЕНКА, В. БРЫКАЧ, С. ДОМАШ, І. МАШКО, С. СТАНЮТА, Л. ДЗЕМЯНЦЬЕВА, В. ГРЭЧЫНСКІ, М. ЕМЯЛЬЯНАЎ, В. СМАЧНЕЎ.**

**ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ**

# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА... У РЭЗЕРВАЦЫІ?

Пэўна і вы заўважылі, што нават сур'ёзныя да змрочнасці сюжэты перадачы «Апоўдні» перабіваюцца песенькамі, здабытымі, мабыць, з тых «філармоній», што ў безлічы рассыпаны па рынках. Дзяржаўнае паведамленне можа змяніцца стогнамі-ўздыхамі «Ах, какая женщина»!. А каб не скруціць мазгі, мяркуючы над канцэпцыямі рынку, прапануюць пераключыцца на праблему сітуацый тыпу «Я на камушке сидел, девки в озере купались» і г. д.

Гэта ж колькі змарнавалі часу Аладаў, Алоўнікаў, Падкавыраў, Туранкоў, Чуркін, Багатыроў, Пукст і шмат іншых жывых і памерлых людзей, ствараючы беларускую музыку! Навошта яе было ствараць, калі маладая разумніца паведаміла мне па тэлефоне, што «мы не пропагандируем белорусскую музыку». Праўда, гэта не ва ўсім Беларускім радыё, а ў «отраслевых передачах». Так што беларуская музыка яшчэ мае сваю рэзервацыю! А ў «отраслевых передачах» і надалей хрыпатыя, бы з перапою, люмпен-інтэлігенты і пісклявыя дзяўчаты - пераросткі будуць выкрыкваць свае немудрагелістыя тэксты, упэўненыя ў гарантаваным заробку. Усю гэтую пошасць, на шчасце, нельга прылічыць ані да музыкі, ані да беларускай культуры ўвогуле. Каму і дзеля чаго патрэбна дзейнасць такіх культуртрэгераў на нашым радыё? Няўжо так прыемна мець выгляд каланіяльнай установы?

Са сваімі пытаннямі я і паспрабаваў звярнуцца на радыё. Але ўсё атрымалася дакладна паводле Райкіна: пінжак пашыты дрэнна, але вінаватых няма. Шмат хто са мной пагаджаўся, але даваў чарговы тэлефон. Хто ж заказвае музыку на Беларускім радыё?

33-34-66 — тут па чарзе бралі трубку чацвёра супрацоўнікаў; патлумачылі і пра «нацыяналізм». Пошласць, відаць, менш небяспечная? 33-88-07 — не мае дачынення. 33-36-44 — накіравалі да сп. Казякіна, 33-88-38 — адказалі, што сп. Казякін у пытаннях музыкі «ни при чём». 33-88-19 ды 33-88-18 ахвотна выслухалі, але і тут не ўплываюць на выбар музычнага дапаўнення «отраслевых передач». Відаць, іх робяць нейкія піраты альбо само кіраўніцтва радыё?

**Аркадзь ЖУКОЎСКІ,**
**інжынер-механік.**
г. Гродна.

# ПАШКАДУЙЦЕ НЕРВОВУЮ СІСТЭМУ!

Я вельмі паважаю наша Беларускае радыё, асабліва яго музычныя і літаратурныя перадачы. Мне падабаюцца канцэрты па заяўках, «Вечары на канапе», «Жадаю вам...» Ёсць многа цудоўных знаходак, цікавых маладых музыкаў, спевакоў. І што я заўважыў: калі добрая музыка пачынаецца з раніцы, то ўвесь дзень ходзіш бадзёры, з узнятым настроем. І калі па радыё грае з раніцы не сапраўдная эстэтычная музыка, якая нясе асалоду душы, а нейкая траскатня з бяздушных гукаў, то гэта ўжо, выбачайце, «цыркулярная піла», ад якой толькі разбурэнне нервовай сістэмы. Колькі даецца гэтай заходняй крыклівай рок-музыкі па нашым радыё — вельмі шмат! Няўжо там выпадковыя людзі, няўжо іх не турбуе, што часта па радыё гучыць бязглуздзіца, якая разбурае наша здароўе. Такая добрая і гуманная душа ў нашага народа, і непатрэбна нам усялякая сусветная халтура, ды яшчэ з неўразумелым тэкстам.

Не падумайце, што я праціўнік модных хваляў у музыцы. Не, калі гэта сапраўдная знаходка для слыху, для розуму, для душы. Застаўкі, паўзы музычныя павінны быць заўсёды прыемныя для слыху.

**Лявон ДУБОЎСКІ.**
г. Мар'іна Горка.

**АД РЭДАКЦЫІ. Мо і занадта эмацыянальныя допісы нашых чытачоў, але ёсць у іх і рацыянальнае зерне. Сапраўды, побач з размаітымі — папулярнымі, асветніцкімі, аналітычнымі, элітарнымі нават — праграмамі, якія рыхтуе рэдакцыя музычнага вяшчання Беларускага радыё (згадайма: «Музычны канал», «Тэра гармонія», «Моладзі пра музычнае мастацтва», «Музычны ключ», «Музыка на ўсе часы», «Вялікая музычная вандроўка» і інш.), трапляе ў эфір і «даважак». Ці заўсёды ён мае дачыненне да МУЗЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ! Ці заўсёды патрапляе ў рэчышча нашай яшчэ захаванай, але пакуль не адроджанай духоўнай адметнасці! Ці варта беларусам развінаць абдымкі насустрач татальнай амерыканізацыі, якой так адчайна супраціўляецца здаровая частка культурнай «кансерватыўнай» Еўропы! Не сумняваемся, стаўленне да гэтай публікацыі будзе рознае, і, магчыма, рэдакцыя атрымае яшчэ іншыя пісьмы наконт «аздобы» радыёперадач, наконт музычнай атмасферы ў нашым эфіры.**

**АДДЗЕЛ МУЗЫКІ «ЛіМа».**

Саюз тэатральных дзеячаў смуткуе ў сувязі з канчынай члена саюза **АЛЯШКЕВІЧА** Міхаіла Леанардавіча і выказвае глыбокае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.

